№ 24 (957) 29 чэрвеня 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## ДЭНАМІНАЦЫЯ

Пасля дэнамінацыі цэны вернуцца да «савецкіх». Цікава параўнаць. **Старонка 2.**

Аляксандр Шакуцін: Грошай у Чыжа хапае, каб выкупіць усіх, хто там з ім сядзіць. **Старонка 4.**

Таццяна Талстая нецэнзурна выказалася пра Святлану Алексіевіч. **Старонка 6.**

«Раздзявацца і работаць». Інтэрнэт выбухнуў флэш-мобам на словы Лукашэнкі. **Старонка 7.**

# Жалезныя зайцы

У ноч на 1 ліпеня ў Беларусі мае адбыцца галоўная эканамічная падзея года — дэнамінацыя. Мільёны і тысячы адыходзяць у нябыт, затое вяртаюцца капейкі.

## Пошта, банкі не будуць рабіць у дзень дэнамінацыі! Улічыце гэта!

Нязручнасці мінуць за 1—2 дні. Але да іх варта падрыхтавацца загадзя.

**Банкаматы**

Варта загадзя зняць на запас частку грошай з банкаўскіх картак. Банкаматы дакладна не будуць працаваць уначы з 30 чэрвеня на 1 ліпеня. У залежнасці ад банка час перапынку вагаецца: напрыклад, «Беларусбанк» абяцае ўключыць банкаматы 1 ліпеня а 8-й раніцы, а «Прыёрбанк» — а 10-й раніцы.

У гэты ж час не будуць працаваць і карткі. Прычым не толькі беларускія, але і замежныя. Разам з тым беларускімі карткамі не ўдасца расплаціцца за мяжой.

У той жа час многія аддзяленні банкаў зачыняюцца для пераўліку на 3—5 дзён.

**Інтэрнэт-банкінг**

«Беларусбанк» плануе заблакаваць правядзенне аперацый толькі на ноч дэнамінацыі. Некаторыя іншыя банкі (напрыклад, «МТБанк») абачліва папярэджваюць, што зрабіць плацяжы не ўдасца да раніцы 4 ліпеня.

**Крамы і пошта**

У большасці крамаў рэжым працы не змяняецца. Аднак «Белпошта» папярэдзіла, што яе аддзяленні працаваць 1 ліпеня не будуць.



## Чытайце праз тыдзень:

- **Новая аповесць Уладзіміра Арлова**
- **Дзённік Горвата**
- Новы праект **Сяргея Гудзіліна**
- **10 тэхналогій**, якія могуць зрабіць рэвалюцыю ў ваеннай справе...
- **Забойства вялікага князя Войшалка:** дэтэктыў з нямецкім следам

Ды шмат усяго іншага ў першым нумары «НН»-месячніка ў ліпені.

# Хлеба менш, каўбасы больш

Пасля дэнамінацыі цэны **вернуцца да «савецкіх»**. Цікава параўнаць.

У ноч на 1 ліпеня ў Беларусі мае адбыцца галоўная эканамічная падзея года — дэнамінацыя. Мільёны і тысячы адыходзяць у нябыт, затое вяртаюцца капейкі. Апошні раз беларусы карысталіся манетамі ў савецкі час. Адкіданне нулёў верне многіх у той час, калі каўбаса каштавала 2 рублі 20 капеек.

Давайце для параўнання перанясёмся ў 1986 год — тады яшчэ савецкая эканоміка дзейнічала ў сваім стабільным рэжыме.

У 1986 годзе сярэдні заробак у БССР складаў 180 рублёў. Цяпер сярэдні заробак складае 718 новых рублёў. «Розніца» — 4 разы.

Узгадаем, якія цэны былі тады і якія цяпер.

Зразумела, параўноваць спажывецкі кошык тых і цяперашніх часоў не заўсёды каэктна. У крамах сотні тавараў, якіх савецкія грамадзяне не бачылі ў вочы. Глабальная эканоміка і канкурэнцыя вытворцаў дазволілі пакаштаваць стравы іншых кухняў ды паласавацца экзатычнымі фруктамі.

З іншага боку, каб знайсці такую ялавічыну ці курыцу, якія былі ў СССР, трэба пастарацца. Мяса тады было нібыта таннейшае, чым цяпер, але значна горшай якасці — з косткамі, перамарожанае.

Яшчэ адна асаблівасць — аб'ём тавараў. Літровае малако ці кілаграмовы пакет рысу ў крамах рэдка калі ўбачыш. Таму цяперашнія цэны мы пералічылі ў розніцу на савецкія нарматывы.

Сярод базавых прадуктаў для беларусаў даражэйшымі сталі хлеб і грэчка.

Асаблівa відавочная розніца з цэнамі на хлеб. У савецкі час ён быў, лічы, дармавым. Цяпер жа даводзіцца плаціць рэальны кошт.

А вось што стала ўдвая больш даступным, дык гэта гарэлка. Раней на заробак можна было набыць 18 бутэлек, цяпер жа — ажно 120. Вось такі «клопат» пра здароўе нацыі.

У цэлым жа ў незалежнай Беларусі людзі жывуць нашмат багацей, чым у СССР.

**Ягор Марціновіч**

| № | Прадукт | Цана ў 1986 | Колькі купіць на заробак | Цана ў 2016 (у новых рублях) | Колькі купіць на заробак |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Вараная каўбаса, 1 кг (у продажы бывала рэдка, даводзілася стаяць у чэргах) | 2,2 | 82 | 5 | 144 |
| 2 | Гарэлка, 0,5 л | 9,8 | 18 | 6 | 120 |
| 3 | Цукар, 1 кг | 0,94 | 191 | 1,59 | 452 |
| 4 | Алей, 1 л | 1,02 | 176 | 2,43 | 295 |
| 5 | Яйкі, дзясятак | 0,9 | 200 | 1,59 | 452 |
| 6 | Малако, 1 л | 0,28 | 643 | 0,85 | 845 |
| 7 | Масла, 200 г | 0,68 | 265 | 2 | 359 |
| 7 | Хлеб, 1 кг | 0,20 | 900 | 1,09 | 659 |
| 8 | Грэчка (у продажы бывала рэдка, выдавалі наменклатуры і хворым), 1 кг | 0,56 | 321 | 3,07 | 234 |
| 9 | Рыс, 1 кг | 0,88 | 306 | 1,24 | 579 |
| 10 | Ялавічына, 1 кг | 2 | 90 | 6 | 120 |
| 11 | Піва, 0,5 л | 0,37 | 486 | 1,15 | 624 |

**Асцярожна, махляры!**

З'яўленне новых грошай — заўсёды залаты час для махляроў. Па-першае, яны могуць паспрабаваць разлічыцца старымі грашыма, выведзенымі з абароту, ці замежнымі банкнотамі, падобнымі па колерах.

Пу-другое, па вёсках могуць хадзіць зладзеі, якія назавуцца работнікамі сацыяльных служб і нібыта будуць ажыццяўляць цэнтралізаваны абмен грошай. Першыя такія выпадкі былі зафіксаваны яшчэ летась.

**Курс — 2. Або 200 000 000**

Курс даляра ад пачатку ліпеня будзе складаць 2 рублі. Аднак калі не ўлічваць праведзеныя дэнамінацыі, то курс складае гіганцкія 200 мільёнаў рублёў за адзін даляр. Такой дэвальвацыі, як у Беларусі, не было ні ў адной краіне постсавецкай прасторы.



**На 2 ліпеня ў Мінску запланаваны афіцыйны Дзень вышыванкі**

2 ліпеня (субота) у Мінску, каля Палаца спорту, пройдзе Дзень вышыванкі, арганізаваны БРСМ. Сярод мерапрыемстваў — шэсце ў вышыванках.

## Цэны на кватэры зноў абнавілі дзевяцігадовы мінімум

Цана прапановы квадратнага метра нерухомасці ў Мінску апусцілася да $1170. За мінулы тыдзень цана апусцілася на $3. Гэта вынікі штотыднёвага даследавання партала *Realt.by.*

Апошні раз на такім узроўні цэны былі 3 снежня 2006 года — дзевяць з паловай гадоў таму. Тады назіралася імклівае падаражанне, кватэры за год даражэлі ўдвая.

Цяпер такой тэндэнцыі няма — апошнія два месяцы цэны фактычна стаяць на месцы ў дыяпазоне $1170—$1180.

**ЯМ**

## Сярэдні заробак у Мінску пераваліў за 10 мільёнаў

Паводле падлікаў Белстата, сярэдні заробак за май склаў 7 182 900 рублёў (718,3 новага рубля). З улікам сярэднятыдневага курса даляра за май гэта складае $369. У параўнанні з красавікам заробак вырас амаль на 97 тысяч.

Цікавая іншая лічба. Папярэдні Усебеларускі народны сход прайшоў у пачатку снежня 2010 года. Тады сярэдні заробак (за кастрычнік) складаў $443 у эквіваленце.

Найвышэйшыя заробкі тым часам фіксуюцца ў Мінску. Паводле статыстыкі, налічаны заробак у сталіцы перавысіў 10,07 мільёна рублёў.

**ЯМ**

## Спёка вяртаецца

У другой палове тыдня ўмовы надвор'я Беларусі будзе вызначаць вобласць павышанага атмасфернага ціску. 30 чэрвеня ў асобных раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы, прагрымяць навальніцы. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +12.. + 18°C, максімальная днём +25.. + 30°C, па паўднёвым захадзе да + 32°C.

1 ліпеня большая частка краіны будзе заставацца ў полі павышанага ціску, на паўночным захадзе адаб'ецца ўплыў атмасфернага фронту. Месцамі па паўночна-заходняй палове чакаюцца кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +13.. + 20°C, максімальная днём +26.. + 32°C.

**Pogoda.by**

### Сціcла

**З Мінска ў Адэсу — 12 разоў на тыдзень**

З 16 ліпеня 2016 года авіякампанія «Белавія» ўводзіць 2 дадатковыя рэгулярныя рэйсы з Мінска ў Адэсу. Колькасць рэйсаў, што выконваюцца ў гарады Украіны, вырасце да 54 на тыдзень. З Беларусі можна даляцець да Кіева, Харкава і Адэсы.

**Чэрнік перайшоў у «Нансі»**

Галкіпер футбольнай зборнай Беларусі Сяргей Чэрнік перайшоў з БАТЭ ў французскі «Нансі», што прабіўся ў элітны дывізіён.

Тэрмін дзеяння пагаднення з французскім клубам складзе тры гады. Сума трансферу Чэрніка склала каля 500 тысяч еўра.

**Кампенсацыі за збіты Су-24 не будзе**

Прэм'ер-міністр Турцыі Біналы Ілдырым адмовіўся выплачваць кампенсацыю Расіі за бамбардзіроўшчык Су-24, збіты пры канцы мінулага года. Прэзідэнты Уладзімір Пуцін і Рэджэп Таіп Эрдаган маюць правесці тэлефонную размову па ініцыятыве расійскага боку. Эксперты мяркуюць, што гэта будзе знак нармалізацыі двухбаковых адносін.

### Дзякуй чытачам-мецэнатам НН

Шчыра дзякуем неабыякавым чытачам за ахвяраванні на выхад NN.BY/«Нашай Нівы»:

Ан-н І.М., Кул-к С.Н., Аляксандру Уладзіміравічу К-му, Aliaksej, Bekarevich, DK, Віталю К., Макс-ч, Кав-нка С.А.

Ш-ка А.Н., Лыс-ч М.І., Андрэю В., Дар-скай В.І., Макс-ч, Уд-ў Ю. А., Ерм-скаму А.В., Юр-най Т. Н., Він-даву В.Д.

Дзякуй Веце з Аўстрыі за падарункі, перададзеныя для аўтара «НН» Андруся Горвата.

### Апытанне на nn.by

**Ці трэба праводзіць Усебеларускія народныя сходы?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 58 | 5% |
| Не | 1167 | 92% |
| Не ведаю | 44 | 3% |

Прагаласавала 1269 чалавек

### Самае чытанае на nn.by за 22 — 28 чэрвеня

1 «Раздзяваецца і працуюць»: сацсеткі выбухнулі флэш-мобам на словы Лукашэнкі
2 Хлопца папрасілі зняць саколку з «Пагоняй», ён і зняў…
3 Таццяна Талстая пра Алексіевіч: Як будзе пі…ц па-беларуску?
4 У свеце набірае сілу флэш-моб «Няма станіка — няма праблем»
5 У Лондане арыштавалі мастачку, якая прапаноўвала мінакам дакрануцца да яе палавых органаў
6 У продажы з'явіліся планшэты, якія падаравалі ўдзельнікам Усебеларускага сходу
7 Падборка фотаў з інстаграмаў удзельнікаў Усебеларускага сходу
8 Ва Украіне забілі чупакабру
9 Ірына Абельская ў чырвоным і Наталля Пяткевіч у ружовым на Усебеларускім народным сходзе
10 «Дзякуй за нагляд»: Вінаградаў вывесіў дзясяткі бел-чырвона-белых сцягоў і перадаў вітанне міліцыі

# 7 фактаў пра V Усебеларускі народны сход

### 1. Без дыскусіі

Усе 2500 дэлегатаў сходу галасавалі аднагалосна. Не прагучала ніводнага голасу супраць.

### 2. Лічбы

За ўрачыстую вечарыну «Наш шлях» у межах культурнай праграмы V Усебеларускага народнага сходу дзяржава заплаціла 3 мільярды 662 мільёны 824 тысячы рублёў.

Таксама кожны дэлегат атрымаў падарунак — планшэт «Самсунг», коштам каля 4 мільёнаў рублёў.

### 3. Хто дзе сядзеў

Схема рассадкі на падобных мерапрыемствах — важны паказчык. У гэты раз паабапал прэзідэнта сядзелі два прэм'ер-міністры: дзейны, Андрэй Кабякоў, і былы, Міхаіл Мясніковіч (сёння ён старшыня Савета Рэспублікі). Таксама ў першы шэраг, дзе сядзеў Лукашэнка, трапілі: мітрапаліт Павел, Уладзімір Андрэйчанка (старшыня палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу), Аляксандр Косінец (кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта), каталіцкі архіепіскап Тадэвуш Кандрусевіч, Герой Беларусі Павел Марыеў (былы дырэктар БелАЗа), Герой Беларусі Пётр Пракаповіч (экс-кіраўнік Нацбанка), Міхаіл Орда (кіраўнік Федэрацыі прафсаюзаў), генерал-маёр Іван Гардзейчык (намеснік кіраўніка Вайсковай акадэміі) і мітрапаліт на адпачынку Філарэт. Былі і дзве жанчыны: Марыя Марчук, студэнтка БДУІР і актывістка БРСМ, і Алена Клеўжыц, настаўніца рускай мовы і літаратуры з Магілёўскай вобласці.

### 4. Каму даверылі выступіць

Як і на з'ездах КПСС перыяду застою, важна было не столькі тое, пра што выступаюць, а тое, хто выступае і ў якім парадку. Была свая сімволіка ў тым, што на гэтым сходзе першаму далі выступіць Герою Беларусі Васілю Равяку з узорнай гаспадаркі з Верцялішак пад Гродам. Наступным выступіў вайсковец-ветэран з Брэста. А пасля загадчыца ДК з Маладзечна, дэпутатка ў Савеце Рэспублікі.

7-хвілінныя даклады зачыталі таксама міністр Шчоткіна, паслы Расіі і Кітая, маляр з Гомеля, супрацоўніца кампаніі па вытворчасці абутку *Marko*, архіепіскап Кандрусевіч і мітрапаліт Павел. Увогуле, асноўнай тэмай выступаў было падкрэсліванне дасягненняў мінулай пяцігодкі і спадзяванні на пяцігодку будучую. Часта гучалі і падзякі, ці то ўвогуле ўладзе, ці то асабіста Лукашэнку. Па-беларуску прамаўлялі акцёр Віктар Манаеў і рэдактар «Звязды» Карлюкевіч.

### 5. Пра Расію — мінімум

У гэты раз Аляксандр Лукашэнка амаль не ўзгадваў суседнюю дзяржаву ў сваіх прамовах. Хіба толькі наракаў, што партнёры па ЕАЭС ствараюць прадпрыемствы-канкурэнты. Затое неаднаразова ўзгадваўся Кітай — і як перспектыўны рынак, і як узор развіцця, і проста як партнёр.

### 6. Абарона дзяржавы

Асаблівую ўвагу Лукашэнка надаў абароне Беларусі. Па-першае, ён пахваліўся «Паланэзам» — рэактыўнай сістэмай залпавага агню. Па-другое, засцярог усіх «ура-патрыётаў», якія «хочуць падштурхнуць нас да вайны». «Мы дамо ім першымі пайсці ў атаку, у нас ніхто не схаваецца», — паабяцаў Лукашэнка.

### 7. «Раздзявацца і рабіць»

Інтэрнэт выбухнуў жартамі пасля заўвагі Аляксандра Лукашэнкі, што трэба «раздзявацца і рабіць». Сотні беларусаў у адказ апублікавалі свае фота з працоўных месцаў у аголеным ці напаўаголеным выглядзе (**старонка 7**).

**Уладзіслаў Швядовіч**



**Дар'я Шманай з загадкавым чорным партфелем на Усебеларускім сходзе**

На сходзе прысутнічала і Дар'я Шманай — дзяўчына, якая часта з'яўляецца ў кадры з Аляксандрам Лукашэнкам. Так, яна глядзела з прэзідэнтам сёлетні фінал «Міс Беларусь».

На сход Дар'я прыйшла ў дзелавым касцюме і са скураным партфелем з эмблемай беларускага афіцыйнага герба.

## У продажы з'явіліся планшэты, якія падаравалі ўдзельнікам Усебеларускага сходу




На буйных беларускіх сайтах прыватных абвестак з'явіліся першыя паведамленні аб продажы планшэтаў *Samsung Galaxy Tab*. Тых самых, якія былі сярод падарункаў удзельнікам V Усебеларускага з'езду.

Прадавец Арцём з Магілёўскай вобласці хоча збыць такі планшэт за 3 мільёны рублёў. Гэта дастаткова выгадная прапанова, бо такія прылады каштуюць прыкладна 3,7—4,5 мільёна. «Абсалютна новы, у падарунак атрымаў, яшчэ не карыстаўся нават», — сказаў ён нам.

Калі мы спыталіся, ці ёсць на планшэт гарантыя, то Арцём адказаў, што няма.

На прамое пытанне, ці не атрымаў уладальнік планшэт на «сходзе», Арцём адказаў: «Не зусім там». Ніякіх пытанняў, што за сход, дзе раздавалі планшэты, у прадаўца не ўзнікла.

Галоўны рэдактар «Советской Белоруссии» Павел Якубовіч заявіў, што планшэты, якія атрымалі ў падарунак удзельнікі Усебеларускага сходу, — спонсарская дапамога, а не купленыя за грошы дзяржавы.

**Зміцер Панкавец**

Суб'ектыўна

## Усебеларускі народны... спектакль?

Дзяржаўныя СМІ гаварылі пра двухдзённы Усебеларускі сход як пра найважнейшую падзею. Я прасядзеў у Палацы Рэспублікі два дні, і мне сход падаўся іншым — рытуалам, цырыманіялам са сваёй рэжысурай, іерархіяй, харэаграфіяй — але без ніякага сэнсу. Пустата!

Адкрыццё, прамова прэзідэнта. Галасаванне. Адзінагалосна! За? За. А можа, ёсць хто супраць?

Гэта ўсебеларускі народны сход. Супраць? Тут такіх няма.

Выступы. Падзякі. Дасягненні. Райвыканкамы і міністэрствы. Паслы і дырэктары. Рабочыя і студэнты. Мітрапаліты і акадэмікі. Апладысменты, апладысменты, апладысменты. Традыцыйныя каштоўнасці. Ізноў апладысменты. Павучальныя бацькоўскія рэплікі ад прэзідэнта. Штосьці — у капілку афарызмаў, але больш — для праформы.

«Раздзявацца і работаць». «Дручыць студэнтаў». «Ніхто не сказаў, што не. Значыць, так».

Ізноў словы, словы, словы. Ізноў апладысменты. Вячэра, канцэрт. Яшчэ адзін дзень. Прамовы. Пяцігодка. Рэзалюцыя. Адзінагалосна.

«Беражыце сябе».

Гімн. Заслона. Канец.

Было заўважна, што для многіх дэлегатаў «з народа» гэта сапраўды была значная падзея, момант дотыку да ўлады.Яны перажывалі: як не падвесці, не аблажацца, не забыцца на тэкст у адказны момант, не ўпасці тварам у бруд. Таму Ірына Шабулдаева, маляр з Гомеля, з гонарам расказвае мясцовым СМІ, што і яна таксама ўдзельнічала ў напісанні ўласнай прамовы. Бо самая лепшая самадзейнасць — пастаўленая прафесіяналамі.

Бо на тое сход і ўсенародны, а пазіцыя і меркаванне народа павінны быць ідэалагічна выверанымі. Тым больш цабе прывезлі ў сталіцу, падаравалі табе значок і планшэт, узнагародзілі прыгожым званнем «дэлегата», накармілі і напаілі, паказалі канцэрт і адвезлі дамоў — згодна з правіламі нават не гульні, а ўжо жыцця, трэ было праявіць удзячнасць, выхаванасць, разуменне сітуацыі.

Бо вырашаць лёс краіны — гэта адна справа. А жыць у ёй — зусім іншая.

**Сямён Цыбульскі**

Вялікая палітыка

## Што выхад Брытаніі змяняе для Беларусі

Што адбудзецца, калі краіны Еўропы і ЗША пачнуць «займацца самі сабой» і перастануць развіваць праект «Вялікай Еўропы»? Беларусь тады адыходзіць на перыферыю ўвагі. На перыферыю для ўсіх, акрамя Расіі з яе вялікімі магчымасцямі ўплыву і Польшчы ды Літвы — з іх невялікімі.

Нічога добрага ў тым для Беларусі няма. Чым слабейшы ЕС, тым слабейшая і Беларусь; чым мацнейшы ЕС, тым мацнейшыя эканоміка і суверэнітэт Беларусі, гэтая залежнасць будзе валідная ў наступныя гады.

Выхад Брытаніі сапраўды змушае адны краіны і падштурхоўвае другія «заняцца сабой».

У той жа час Расія будзе старацца адкалоць ад ЕС і іншыя краіны — Грэцыю, напрыклад.

Для Еўрапейскага Саюза выхад Брытаніі азначае, што ён стане інакшы. Без Брытаніі гэта будзе больш кантынентальны, менш атлантычны саюз. Зрэшты, нельга выключаць новы рэферэндум у Брытаніі праз некаторы час, калі брытанцы самі пабачаць наступствы свайго кроку. Толькі да таго часу, магчыма, з Брытаніі выйдзе, а да ЕС далучыцца Шатландыя, якая масава галасавала за ЕС, і гэта будзе імпульс да драблення краін ЕС.

У той жа час выхад Брытаніі працверазіць брусэльскую бюракратыю і тым самым можа дапамагчы зрабіць Еўрасаюз больш эканомным і эфектыўным.

Выхад Брытаніі — гэта таксама пазітыўны факт, што з ЕС можна выйсці мірным і дэмакратычным шляхам, у выпадку калі ЕС перастае задавальняць нацыянальныя інтарэсы. СССР развальваўся, бо з яго немагчыма было выйсці. А тут гэтая опцыя выхаду заўжды будзе стрымліваць і аздараўліваць.

У кожным разе, выхад Брытаніі не знішчае вялікай ідэі Еўрасаюза — новай формы аб'яднання дзяржаў, пры якой няма адной дамінуючай нацыі, а нацыянальныя культуры захоўваюцца. У гэтым адрозненне ЕС і ад ЗША, і Еўразійскага саюза. З Брытаніяй ці без Брытаніі, такі саюз застанецца прывабны і для беларусаў.

**Андрэй Дынько**

# Мільянер Аляксандр Шакуцін: Грошай у Чыжа хапае, каб выкупіць усіх, хто там з ім сядзіць

На пятым Усебеларускім сходзе бізнэсмен Аляксандр Шакуцін, старшыня рады дырэктараў ААТ «Амкадор», расказаў журналістам пра беларускі бізнэс, чаму сам не баіцца праверак і чаму не набыў бы кватэру ў «доме Чыжа».

**Пра тое, ці рацыянальна праводзіць сход у крызіс**

Мы, напэўна, пераацэньваем суму, якую ўклалі ў гэтае мерапрыемства. Да таго ж, у крызіс трэба, каб збіраліся людзі, якім неабыякава, што адбываецца ў эканоміцы свету, і разам прымалі рашэнні, якія дапамогуць выйду галіны з крызісу. І трэба ж улічваць яшчэ і псіхалагічны момант. Бо ў кожнага ўдзельніка, як у спартоўца, з'яўляецца другое дыханне, мы пачынаем шукаць адказы на складаныя эканамічныя пытанні разам — і ў выніку іх знаходзім. І важна, што сёння кіраўніцтва краіны пачула, якія праблемы ёсць у культуры, у спорце.

**Пра Юрыя Чыжа**

Не ўсе вы ведаеце, што здарылася з Чыжом. Я больш ведаю, чым шмат хто, мяркую. Я не магу сказаць, што калісьці ён быў маім калегам, мы ўсё ж па-рознаму ўспрымалі і вядзенне бізнэсу і будаванне яго. Мы ніколі не былі партнёрамі і не былі людзьмі, якія падзяляюць філасофію вядзення бізнэсу. У нас розная філасофія, яна дыяметральна супрацьлеглая.

Грошай у Чыжа, думаю, хапае, каб выкупіць усіх, хто там з ім сядзіць. Але, давайце... Гэта надта інтымныя тэмы. Я лічу сам, што калі ты не забіў, не згвалціў, а недзе недаплаціў — то трэба ставіцца лаяльна, яны павінны кампенсаваць усе страты і выйсці на волю.

Я чытаў артыкул, што 4 чалавекі з 1000 могуць кіраваць прадпрыемствам ці бізнэсам. Таму такія людзі павінны быць «на ўліку», іх трэба ведаць. І калі нейкія праблемы, то іх лепш вярнуць, каб яны працай даказалі, што здзейснілі памылку, каб яны працавалі на грамадства, на эканоміку краіны.

**Пра праверкі**

Ведаючы, як працуюць мае структуры і як працаваў Чыж, канечне, мне баяцца няма чаго.

**Першыя праверкі прыйшлі не да Чыжа, а да мяне**

І калі ўпэўніліся, што мы будуем бізнэс на празрыстай канкурэнтнай аснове, што мы не выводзім сродкі за мяжу, мы ўкладваем іх у развіццё ўласнай эканомікі — праблемы ўсе знялі.

Не ведаю, наколькі гэтыя праверкі былі масавыя, але я іх прайшоў. І калі да мяне прыйшлі, я не спалохаўся, абсалютна. Я адразу сказаў, што не хвалююся, што гэта такая праца ў праваахоўнікаў — правяраць. А наша праца — даказваць, што мы працуем у межах прававога поля. Мы працуем шчыра, плацім падаткі — гэта філасофія нашага бізнэсу. У кожнага ёсць момант спакусы, мы ўсе хочам зарабіць больш, хочам неяк зарабіць за кошт дзяржавы: недаплаціць падаткі ці штосьці схаваць. Але з першага кроку ў бізнэсе мы для сябе вырашылі, што трэба працаваць згодна з заканадаўствам і не баяцца анікога і анічога. Хай мы заробім менш, але мы не будзем баяцца.



А праверак я дакладна прайшоў у 10—15 разоў больш, чым Чыж.

І шмат з іх былі па замове. Так, у нас такое магчыма. Можаце і вы напісаць ліст на мяне ў Дзяржкантроль, калі заўважылі нейкі негатыў у маёй працы. І прыйдуць, праверыць. І я адкрыта пра гэта казаў, нават агучваў прозвішчы. Гэта выклікана было не камерцыйнымі інтарэсамі нават, а, хутчэй, зайздрасцю, тым, што я рабіў не тое, што іншыя.

Я заўсёды выступаў за вытворчасць, за стварэнне новых працоўных месцаў. Хоць гэта і складана, шмат рызыкі.

**Пра бізнэс**

У нас у бізнэсе па-рознаму ставяцца адзін да аднаго. Ёсць стваральнікі — гэта асобная каста людзей, якія адзін з адным маюць зносіны, абмяркоўваюць праекты, радуюцца поспехам адзін аднаго, падтрымліваюць. Усе мы ведаем, як складана займацца вытворчасцю, мы ўсе пачыналі з чагосьці невялікага. А ёсць гандлёвыя людзі. Мы не разумеем гандаль: кіёскі, крамы, шапікі... Мы іх не разумеем. А яны — нас. У нас розныя ступені разумення і вядзення бізнэсу.

І калі адбываліся нейкія затрыманні, я прасіў, каб да «стваральнікаў» ставіліся не так жорстка. І дзяржава абсалютна адэкватна ўспрымала такія просьбы.

**Пра сябе і ўладу**

Два скліканні я быў у Савеце рэспублікі. А сёння я лічу, што ў кожнага чалавека — сваё прызначэнне ў жыцці. Я б ні ў якіх арганізацыях не быў. З моманту, як я сышоў з беларускага ЦК камсамола, у мяне не было імкнення працаваць «наверсе».

У мяне было імкненне ствараць новыя прадукты, заводы, тады я атрымліваю надзвычай вялікае задавальненне, атрымліваю той кайф, які патрэбен чалавеку, каб добра сябе адчуваць. І я буду гэта рабіць, пакуль буду стаяць на гэтай грэшнай зямлі. Ніколі нікуды больш не пайду, ані ў дэпутаты, ані ў іншыя...

**Пра словы Лукашэнкі, што бізнэсоўцаў папросяць падымаць праблемныя вёскі**

Ніхто не прымусіць кагосьці штосьці рабіць. Гэта прапанова. Я меў жаданне дапамагчы сялу. Я сам нарадзіўся ў калгасе, мае бацькі працавалі на вёсцы, я ведаю, наколькі гэта складана. Тады, у той час, гэта была катаржная праца. Я сам даіў 15 кароў і ведаю, наколькі гэта цяжка.

І я хацеў дапамагчы тым людзям, якія сёння засталіся працаваць на вёсцы.

Калі жадання такога няма — ніхто не прымусіць. Я ведаю. Шмат маіх сяброў не захацелі ці не ўзялі гаспадарку.

**Пра маёмасць за мяжой**

Шчыра скажу: аніводнай капейкі за мяжой не маю. Прадпрыемствы працуюць, завод у Літве, у Бранску, у Пакістане. Але гэта кампаніі, якія мы адкрылі з дазволу ўрада Беларусі. Гэта не мая маёмасць. І на 200% скажу: усё, што буду мець, я буду мець у Беларусі. І мая сям'я таксама.

Я ў свой час вельмі хацеў, каб сын атрымаў элітную заходнюю адукацыю, прапанаваў яму найлепшую школу Швейцарыі. Але ён сказаў: «Тата, што я табе зрабіў, што ты хочаш ад мяне пазбавіцца? Я хачу быць побач з табой і працаваць побач з табой». І ён не плануе за мяжой ані вучыцца, ані працаваць.

**Пра дзяржпрадпрыемствы**

Калісьці прэзідэнту прапаноўвалі закрыць ці прадаць дзяржпрадпрыемствы. Асабліва ў 90-я. Гэта толькі вар'яты маглі прапаноўваць, тыя, хто далёкі ад эканомікі, хто не разумее, што такое эканоміка ў Беларусі.

Я жартую заўсёды: «У Беларусі ёсць два мяхі каліійнай солі, два вядры нафты. І два кусты». На чым трэба, каб краіна развівалася? Трэба падтрымліваць вытворчасць. Не было б машынабудаўніцтва — і што?

Вы кажаце пра МТЗ, дык адно працоўнае месца там фарміруе ад 7 да 12 працоўных месцаў у сумежных сферах. Рабочаму трэба даць абутак, вопратку, мыла і гэтак далей. А колькі падаткаў заплацяў той жа МТЗ? А колькі тавараў прадаў?

Калі ён і быў стратным, то пацяху выйдзе на прыбытак, была ж чарговая хваля крызісу. І ён адпрацуе даўгі, да гэтага трэба спакойна ставіцца. Сёння ўсе прадпрыемствы ў свеце маюць страты.

Але страты — гэта не банкруцтва. Гэта бізнэс, гэта нармальная з'ява.

**Пра архітэктуру**

Ёсць некалькі аб'ектаў у Мінску, якія мне катэгарычна не падабаюцца.

Я не люблю «Мінск-арэну». Шчыра, яна нагадвае мне касмадром.

Гэты аб'ект [«Кемпінскі» ля цырка] я называю «нафтабазай». Яны не ўпрыгожваюць Мінск, а неяк прыніжаюць яго аблічча.

А «дом Чыжа», як ні дзіўна, мне падабаецца. Але кватэру я б там ніколі не набыў — якасць будаўніцтва вельмі нізкая. Тыя, хто атрымліваў там кватэру, здымалі тынкоўку, усё мянялі, бо былі выкарыстаныя нізкай якасці матэрыялы, у тым ліку і вокны.

**Улад Швядовіч**



**Ірына Абельская ў чырвоным і Наталля Пяткевіч у ружовым на Усебеларускім народным сходзе**

На Усебеларускім сходзе дэлегаты і госці выглядалі рэспектабельна. Мужчыны ў найлепшых касцюмах, жанчыны з раніцы схадзілі да цырульніка. Дрэс-код з папраўкай на спёку: былі і кароткія сукенкі з адкрытымі плячыма, і строгія касцюмы, піша *kp.by*.

Самымі эфектнымі былі дзве жанчыны — у чырвоным і ружовым: Ірына Абельская, галоўны доктар Лечкамісіі, і Наталля Пяткевіч, былы памочнік прэзідэнта.



**Модныя туфлі Наталлі Пяткевіч.**

# Мінчук выехаў на праспект у машыне пад бел-чырвона-белым сцягам — яе забралі на штрафстаянку

Трэба не перагінаць і «не нарывацца».



У мінулы чацвер, 23 чэрвеня, насупраць Галоўпаштамта праходзіла акцыя салідарнасці з блогерам Джонам Сільверам — Эдуардам Пальчысам.

На акцыю, апроч іншых, прыехаў жыхар Мінска Яўген Батура.

Ягоную машыну зверху ўпрыгожвалі бел-чырвона-белыя сцягі. Для Яўгена ўсё скончылася кепска: супрацоўнікі ДАІ спынілі яго, пасадзілі ў міліцэйскую машыну і адвезлі ў Маскоўскае РУУС.

Потым у міліцыі заявілі, што ёсць падазрэнне, што аўто скрадзенае, забралі ключы і аўто.

Яўген Батура пакуль не можа дамагчыся адказу, дзе ягоная машына і калі будзе вернутая.

У міліцыі патлумачылі, што супраць яго не вядзецца ніякай справы — ні крымінальнай, ні адміністрацыйнай, а машыну забралі на падставе рапарта супрацоўніка ДАІ, у якім той быццам бы выказвае падазрэнне ў сапраўднасці нумара кузава.

У панядзелак Батура безвынікова схадзіў у міліцыю са скаргай на дзеянні ДАІ.

«У Маскоўскім РУУС заяву не прынялі. Я тады сказаў, каб клікалі кіраўніцтва. Яны там параіліся і вырашылі, што заўтра мяне прыме нейкі начальнік, але я пайду ўжо з адвакатам», — сказаў расхваляваны Яўген.

«А калі вы хочаце спытаць, ці паехаў бы я яшчэ раз так, то пасля таго, што здарылася, мне таго ўдвая больш хочацца!» — дадаў мужчына.

На дарогах Беларусі ездзяць тысячы аўтамабіляў з бел-чырвона-белымі налепкамі ці сцягамі за шклом. І ніякіх праблем з гэтым ніхто не мае. Праблема была ў тым, што Батура дзейнічаў дэманстратыўна?

Зрэшты, нават міністр МУС Ігар Шуневіч нядаўна сказаў, што супрацоўнікі міліцыі не маюць права затрымліваць чалавека за «Пагоню».

Але разам з тым міністр таксама нядаўна выказаўся пра байкераў: маўляў, з тымі, хто газуе па начах, інспектары могуць змагацца такім чынам — «усумніўшыся ў серыйным нумары і паставіўшы на прыкол для прафілактыкі».

Можа быць, асобныя супрацоўнікі міліцыі зразумелі словы «паставіць на прыкол» як інструкцыю да дзеяння ў любых незразумелых сітуацыях? Тады гэта праявы нігілізм.

Зрэшты, нават самым заўзятым ворагам беларушчыны рана ці позна давядзецца змірыцца з «Пагоняй». Гэтыя сімвалы запатрабаваныя ў грамадстве, іх ніхто не навязвае — беларусы абіраюць іх самі. Вышымайкі і саколкі з «Пагоняй» разыходзяцца тысячамі, на футбол за мяжу заўзятары ездзяць пад бел-чырвона-белымі сцягамі, на міжнародных п'едэсталы — успомніце Гуркова — беларусы падымаюцца ў майках з «Пагоняй».

І такія выпадкі, як з Батурам, працуюць толькі на дыскрэдытацыю вобразу МУС у грамадстве, а Беларусі — у свеце.

Дырэктар «Арт-сядзібы» Павал Белавус, з падачы якога і пачалася акцыя са сцяжкамі на машыны, бачыць толькі адзін выхад з сітуацыі — пашыраць ужыванне нацыянальнай сімволікі і надалей.

Але, як заўважае Павал, тут трэба не перагінаць і «не нарывацца».

«Я сам першы ездзіў па праспекце Незалежнасці, мы праязджалі супрацоўнікаў ДАІ і ніякіх праблемаў не мелі. Мы ўжо атрымалі больш як 100 замоваў на такія сцяжкі — як ад трактарыстаў, так і ад уладальнікаў люксавых аўто, — кажа Белавус. — А выпадкі з Яўгенам Батурам і таксістам Леанідам Кулаковым — гэта ўзоры перагінаў міліцыі. Але дапускаю, што гэтыя людзі і самі маглі нарывацца».

**Арцём Гарбацэвіч**

# У гродзенскім тэатры абвяргаюць інфармацыю пра звальненне Віктара Шалкевіча

Інфармацыя пра звальненне акцёра і барда з'явілася на старонцы серыі «Гарадзенская бібліятэка» ў фэйсбуку.

«Даведаліся мы, што наш славуты акцёр і бард Віктар Шалкевіч звольнены з Гарадзенскага абласнога тэатра лялек.

Кажуць, бард Шалкевіч дазволіў сабе вальнадумнічаць са сцэны на канцэрце, які адбыўся ў Гродне 10 чэрвеня. Пільным гарадзенскім ідэолагам і кіраўніцтву не спадабалася, і ўсё — пішы заяву, бывайце, «Тутэйшыя», — заяўлялася ў допісе.

У Гродзенскім абласным тэатры лялек, дзе Шалкевіч працуе з 1990 года, інфармацыю пра звальненне абвергі.

«Віктар неўзабаве ідзе ў адпачынак, бо ў яго запланаваныя свае выступы, але з верасня працягне працу ў тэатры», — запэўніла Марыя Шабашова, дырэктарка тэатра.

Яна падкрэсліла, што чуткі пра звальненне — гэта толькі чуткі.

Сам Віктар Шалкевіч пракаментаваў сітуацыю так: «Я пакуль у адпачынку, а далей будзе бачна. Ва ўсякім выпадку, кантракт у мяне да наступнага года».

**УШ**



# «Бла-бла-бла»: Давыдзька паспрабаваў адказаць на рытарычныя пытанні з першай старонкі «Нашай Нівы»

Старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька пракаментаваў вокладку «Нашай Нівы», прысвечаную Усебеларускаму народнаму сходу.




«З'езд... або сход... быў цудоўным, быў цікавым, быў, безумоўна, карысным. Але нашыя незалежныя ад здаровага сэнсу сродкі масавай інфармацыі, як заўсёды, паднапружыліся і сапсавалі чыстае паветра. Паспрабавалі дэвальваваць, прынізіць, зрабіць нікчэмнай вельмі важную падзею.

Вось глядзіце: загаловак на адрас усіх, хто выбіраў, хто ўдзельнічаў, ад рэдактара газеты «Наша Ніва». «Бла-бла-бла» — прамая абраза».

Давыдзька зачытаў тры пытанні без адказу, надрукаваныя на першай старонцы «Нашай Нівы», і паспрабаваў адказаць на іх.

«На гэтыя пытанні насамрэч вельмі простыя адказы. Каб знайсці іх, таму, хто пытае, трэба проста адарваць філей ад канапы», — патлумачыў ён.

Хто з вас (нас) выбіраў дэлегатаў на гэты сход?

«Дык трэба было правесці сход у сваім працоўным калектыве. У вас няма працоўнага калектыву? Трэба было правесці сход па месцы жыхарства. У вас няма месца жыхарства? Арганізуйце якія-небудзь рух бамжоў і ўзначальце яго! Прымітыўнае пытанне, разлічанае на плебс», — абурыўся Давыдзька.

Нагадаем, што на папярэднія сходы спрабавалі «абрацца» апазіцыйныя палітыкі: Аляксандр Казулін, Уладзімір Някляеў. У будынак іх проста не пускалі. Затое ўзгадаем, як у 2010-м трапляў на сход сам Давыдзька. «Мы аклікнулі дэпутата Давыдзьку, які таксама вылучаўся на Усебеларускі сход. На пытанне, хто яго вылучаў, спадар Давыдзька не здолеў адказаць. Запрашэнне на гэты сход ён атрымаў поштай. І гэты прыклад са спадаром Давыдзькам, які не ведае, хто яго абіраў, стаў ключавым момантам сённяшняга візіту на гэты сход. На гэты ж сход на вачах супрацоўнікаў міліцыі і чалавека з выканкама Ленінскага раёна ідзе дэпутат Давыдзька, які не ведае, хто яго абіраў», — узгадваў актывіст Міхась Пашкевіч.

Чаму ў Фінляндыі не праводзяць «усяфінскі народны сход», а ў Славаччыне — «усеславацкі народны сход»?

«Узяць Швейцарыю (не будзем браць іншыя краіны). У двух кантонах некалькі стагоддзяў праводзяць народныя вечы. І, дарэчы, толькі пры ўмове захавання гэтай традыцыі кантоны пагадзіліся быць у складзе Швейцарыі», — заявіў старшыня Белтэлерадыёкампаніі.

У Беларусі, прынамсі на паперы, дзяржаўная ўлада падзел на тры віды ўлады — заканадаўчую, судовую і выканаўчую. Якое месца сярод іх займае «ўсебеларускі сход» — невядома.

Рэгіянальнае веча, склікане для абмеркавання актуальных праблем, не будзе прымаць рашэнне адзінагалосна, на 2500 чалавек.

Што па-беларуску будзе на гэтым «усебеларускім» сходзе?

«Калегі, што мелі на ўвазе?» — не зразумеў Давыдзька. На дапамогу прыйшоў кіраўнік «Звязды» Алесь Карлюкевіч: «На V Усебеларускім народным сходзе ўдзельнічалі беларусы, грамадзяне Беларусі, якія, дарэчы, у сваіх выступах столькі гаварылі пра развіццё суверэннай дзяржавы. Што ж тут не беларускага?»

«Па-мойму, загаловак «Бла-бла-бла» — гэта пра тое, што ён напісаў, — абурыўся генеральны дырэктар БелТА Дзмітрый Жук. — А што казалі на з'ездзе, будзе зроблена».

«Няўжо, каб выжываць, газецёнцы трэба абражаць іншых. Няўжо не адчуваюць гэтую мяжу?» — падсумаваў Давыдзька.

Удакладняем, што слова «пабеларуску» азначае прамову, агучаную на сходзе менавіта пабеларуску. Відавочны дыспарытэт паміж дзвюма дзяржаўнымі мовамі хвалюе грамадства.

**NN.by**

# Расійская пісьменніца нецэнзурна выказалася пра Святлану Алексіевіч

Расійская пісьменніца і тэлевядучая Таццяна Талстая жорстка раскрытыкавала ў сваім фэйсбуку лаўрэатку Нобелеўскай прэміі — 2015 у галіне літаратуры Святлану Алексіевіч.





Абурэнне Талстой (на фота злева) выклікала нядаўняе інтэрв'ю беларускай пісьменніцы для выдання discours.io. Алексіевіч адзначыла: «Учора я ішла па Брадвеі — і там бачна, што кожны — асоба. А ідзеш па Мінску, Маскве — ты бачыш, што ідзе народнае цела. Агульнае. Так, яны пераапрануліся ў іншую вопратку, яны ездзяць на новых машынах, але толькі яны пачулі баявы кліч ад Пуціна «Вялікая Расія», — і зноў гэта народнае цела... Таму мне хацелася паказаць усю, як казала Цвятаева, квітнеючую складанасць нашага жыцця».

На гэта Таццяна Талстая адзначае: «Хто-небудзь, раскажыце ёй, хто прыдумаў выраз «квітнеючая складанасць» і што ён азначае. Так, і па Маскве ці Мінску пешшу не хадзіце, там нейкае агульнае цела ходзіць. Або ў машынах ездзіць. А «пі...ц» па-беларуску таксама «пі...ц» будзе?»

У каментарах да паста Талстая яшчэ болей развівае гэтую тэму. «Алексіевіч — гэта пераапрануты Валянцін Зорын, журналіст-прапагандыст», — адзначае расійская пісьменніца.

«Яна, канечне, майстар вывarвання га...а з любога матэрыялу», — не скупіцца ў выразах спадарыня Талстая.

Некаторыя каментатары адзначаюць: маўляў, выглядае, што Талстая проста зайздросціць Нобелеўскай прэміі Алексіевіч. «У вас вельмі небагаты набор адчуванняў», — адказвае на гэта аўтарка допісу.

Адразу пасля атрымання Алексіевіч Нобеля Таццяна Талстая ўжо крытыкавала гэтае рашэнне.

«Гэтым рашэннем Нобелеўскі камітэт сказаў, што сыры магнітафонны запіс, малаапрацаваныя, непрыцягальныя тэксты цяпер цэняцца. Простая рэч, ціск на слёзную залозу, аповед пра рэчы важныя, але сырыя, у рэпарцёрскім выглядзе — гэта больш актуальна і сучасна. Нобелеўскі камітэт вырашыў гэта ўзнагародзіць. Гэта характарызуе культурны ўзровень самога Нобелеўскага камітэта», — казала яна па свежых слядах.

Як бачым, расійскую літаратарку гэтая тэма ніяк не адпускае.

Таццяна Талстая нарадзілася ў 1951 у Ленінградзе. Найбольш вядомы яе раман — «Кысь». Адна з вядучых калісьці папулярнай перадачы «Школа зласлоўя».

Святлана Алексіевіч адмовілася неяк дыскутаваць з Талстой. «Я не ведаю, што з ёй адбылося. Але такі ўзровень размовы я не разумею, я ніколі так не размаўляю. Неяк нечакана для мяне прагучала і яе нецэнзурная лексіка. Я на такім узроўні не магу гаварыць. Яна заўсёды падкрэслівала сваё дваранскае паходжанне, а тут не стрымалася. Вельмі шкада», — сказала Алексіевіч.

**Зміцер Панкавец**

# Ikea адклікае дзясяткі мільёнаў шафаў з-за гібелі дзяцей

Шведская кампанія Ikea адклікае серыю сваіх камодаў з-за смерці траіх дзяцей, паведамляюць амерыканскія СМІ.

Адкліканне тычыцца серыі камодаў і шафаў *MALM*. Кампанія таксама цалкам спыняе іх продаж. Шафы і камоды *MALM* ужо прыбраныя з сайта *Ikea*.

Мільёнам тых, хто ўжо купіў такія шафы, вернуць грошы ці дадуць крэдыт на новыя пакупкі ў крамах *Ikea*, піша тэлеканал *NBC*.

У заяве *Ikea* гаворыцца, што перадумовай адклікання стала трагічная смерць некалькіх дзяцей. У кампаніі заявілі, што ў дамах іх кліентаў знаходзяцца небяспечныя тавары, і *Ikea* збіраецца гэта выправіць.

Кампанія пацвердзіла, што з 2014 года трое дзяцей загінулі пасля таго, як камоды перакуліліся і забілі іх. Ахвярамі шафаў сталі дзеці ва ўзросце ад года да двух. *Ikea* таксама атрымала дзясяткі паведамленняў пра інцыдэнты з гэтымі шафамі, якія скончыліся траўмамі.

Камісія па бяспецы спажывецкіх тавараў ЗША і сама кампанія заявілі, што шафы могуць быць бяспечнымі толькі ў выпадку, калі яны прыкручаныя да сцяны. У мінулым годзе кампанія абвясціла аб праграме рамонту гэтых камодаў і пачала раздаваць кліентам спецыяльныя наборы, якія дазваляюць прыкруціць шафы да сцяны. Усяго за год кампанія раздала 300 тысяч такіх набораў.

Небяспечныя камоды прадаваліся больш за 10 гадоў. Яны карысталіся папулярнасцю дзякуючы нізкай цане. Па дадзеных *Philly.com*, адкліканне закране 29 млн прадуктаў, якія трапілі пад праграму рамонту ў 2015 годзе.

**Бі-бі-сі**

# Беларуска-амерыканскі EPAM паглынуў кітайскую кампанію з 1400 супрацоўнікамі

IT-кампанія *EPAM*, якая мае беларускія карані і найбуйнейшае падраздзяленне ў Мінску, набыла кітайскую кампанію *Dextrys*. Умовы куплі не разгалошваюцца.

Купля дадае *EPAM* офісы ў Шанхаі, Гуанчжоу і Сучжоў. Пры гэтым агульны штат кампаніі вырасце да 19 400 чалавек.

Летась *EPAM* набыў амерыканска-індыйскую *Alliance Global Services* са штатам у 1200 чалавек за 51,3 млн даляраў.

*EPAM* спецыялізуецца на распрацоўцы праграмнага забеспячэння для камп'ютараў. Яго беларускія супрацоўнікі зарабляюць у сярэднім каля 40 мільёнаў рублёў за месяц.

На сёння *EPAM* і падобныя да яго кампаніі, а не МТЗ і МАЗ, сталі візітоўкай беларускай эканомікі ў свеце. Праўда, *EPAM* зарэгістраваны ў ЗША, дзе ўмовы для бізнэсу надзейнейшыя.

**Сяргей Гезгала**

# У Баранавічах асудзілі мужчыну, які трымаў чужога хлопчыка, каб сын даў яму здачы

На судзе ён **прызнаў, што не меў рацыі**, і выбачыўся перад збітым хлопчыкам.




Канфлікт адбыўся 2 красавіка. На запісе камеры відэаназірання, якую мама пацярпелага хлопчыка выклала ў інтэрнэт, відаць, як тата 7-гадовага Ромы трымае 9-гадовага Кліма, а Рома б'е Кліма нагамі ў жывот. Гісторыя выклікала рэзананс у краіне. Яе абмяркоўвалі ў ток-шоу «Форум» на тэлеканале БТ-1.

У маі ў дачыненні да таты Ромы распачалі крымінальную справу па ч. 1 арт. 339 КК РБ ( «Хуліганства»).

Судовы працэс пачаўся 27 чэрвеня. Абвінавачаны прызнаў, што не мае рацыі ў той сітуацыі, і выбачыўся перад Ірынай і Клімам. Але пры гэтым мужчына не прызнаў сябе вінаватым у хуліганскіх дзеяннях.

Дзяржабвінаваўца, памочнік Баранавіцкага міжраённага пракурора Святлана Пасемка, прасіла суд прызначыць абвінавачанаму пакаранне ў выглядзе двух год папраўчых работ.

Ірына палічыла, што пакаранне для таты Ромы павінна быць строгім, і папрасіла спагнаць 30 млн рублёў у якасці кампенсацыі маральнай шкоды. Жанчына патлумачыла, што хоча на гэтыя грошы звазіць сына на адпачынак у санаторый.

Абвінавачаны з такой сумай не пагадзіўся і сказаў, што гатовы выплаціць толькі 2 млн.

Суд вынес абвінавачанаму прысуд 28 чэрвеня.

Мужчыну прызналі вінаватым у хуліганстве і прызначылі два гады папраўчых работ. Таксама суд пастанавіў, што бацька Ромы павінен выплаціць сям'і Кліма 15 млн рублёў у якасці кампенсацыі маральнай шкоды.

**Ганна Раманава-Каласоўская, intex-press.by**

# У Мінску плануюць дазволіць паркоўку ў дварах толькі жыхарам дамоў

Аб гэтым паведаміў журналістам намеснік галоўнага інжынера ўнітарнага прадпрыемства «Гаражы, аўтастаянкі і паркоўкі» Аляксандр Ліштван.

«Рэзідэнтны дазвол дзейнічае ў дварах, якія не абсталяваныя зачыняльнымі прыладамі. Аформіць яго можна за сімвалічную плату жыльцам дома. Гэта дасць магчымасць ім паркавацца каля дома на працягу года бясплатна. Нумарныя знакі аўтамабіляў, якія атрымалі дазвол, унясуць у спецыяльную базу, дзякуючы чаму кантралёры змогуць «бачыць» іх, хто заняў сваё месца», — сказаў Аляксандр Ліштван.

Пры паркоўцы іншых машын ім будуць выпісвацца штрафы. Пілотны праект па ўкараненні такой сістэмы паркоўкі ў дварах плануецца рэалізаваць да канца бягучага года ў адным з невялікіх мікрараёнаў Мінска.

**БелТА**

# «Раздзявацца і работаць»: сацсеткі выбухнулі флэш-мобам на словы Лукашэнкі

У сваім выступе на Усебеларускім сходзе Аляксандр Лукашэнка сказаў словы, якія можна ўспрыняць двухсэнсоўна — «раздзявацца і работаць». У карыстальнікаў інтэрнэту ёсць свая версія.














**Меркаванне**

## Вы раздзявайцеся. А «Саша застанецца з вамі»



Піша Віталь Цыганкоў.

Якія самыя папулярныя артыкулы апошнія дні на большасці незалежных сайтаў? Флэш-моб «раздзявацца і работаць», які распачаўся пасля чарговага «афарызму» Лукашэнкі.

Прыкольна, весела. Мне ўвогуле здаецца, што ў нас і без усялякіх прычынаў многія людзі мараць публічна раздзецца, а тут акурат для гэтага з'явілася ідэйная нагода. Узбагацілі сваё сумнае офіснае існаванне яркім эпізодам.

Некаторыя пачалі тлумачыць гэты нявінны флэш-моб нейкімі ідэйнымі прычынамі — «смехам з дыктатуры», «першаснай формай пратэсту», «дыктатуры паміраюць, калі з іх пачынаюць смяяцца».

Слухайце, на Захадзе вось ужо колькі гадоў існуе флэш-моб «у метро без штаноў». Гэта што — пратэст супраць «звярынага капіталізму», барацьба за вызваленне чалавека ад прыгнёту спажывецкага грамадства? Не, гэта проста флэш-моб, безыдэйны і фактычна бессэнсоўны.

Як і наш, з распрананнем.

З Лукашэнкі даўно смяюцца, 22 гады. Хто-небудзь бачыць, што ўлада ад гэтага пахіснулася і гатовая паваліцца — засталося распавесці толькі яшчэ адзін анекдот? І дэрэчы, тады, у 90-я, гэта была сапраўды яркая, жорсткая сатыра альбо рэзкі, трапны гумар — ці то ананімная паэма «Лука Мудзішчаў», ці фільм Хашчавацкага «Звычайны прэзідэнт», альбо вострыя карыкатуры ў газеце «Імя».

А цяперашнія фоткі з распрананнем — вяршыня адвагі і вынаходніцтва, прабачце, офіснага планктону.

Ад такога смеху «дыктатуры» не слабеюць, яны ачалавечваюцца.

Калі ж так хочацца праявіць сваю творчую энергію, зрабіце флэш-моб, напрыклад, у абарону Джона Сільвера — Эдуарда Пальчыса. Можаце прыйсці хоць голымі, хоць апранутымі — я ў любым выпадку прасякнуся да вас павагай.

# У Беларусі засталося толькі 20 мядзведзяў?

Белстат апублікаваў дадзеныя аб колькасці асноўных відаў паляўнічых жывёлаў. Каго ў беларускіх лясах паболела, а каго паменела?

Найбольшая папуляцыя ў зайцаў — іх 159 тысяч (прырост за год 7 тысяч). Услед ідуць вавёркі — 118 тысяч (+16 тысяч).

Амаль аднолькавая колькасць казуляў (75 тысяч, +3 тысячы) і баброў (72 тысячы, +9 тысяч).

Расце і колькасць ласёў. Іх цяпер 32 тысячы (+2 тысячы). Прыблізна столькі ж развялося андатраў (30 тысяч) і лісаў (27 тысяч).

А вось дзікоў, якіх некалькі гадоў таму, да пачатку эпідэміі свіной чумы, было каля 80 тысяч, цяпер засталося толькі 8 тысяч.

Але найбольш за год пацярпела папуляцыя мядзведзеў. У папярэднія гады ў Беларусі фіксавалася 110—120 асобін, а летась улічана толькі 20 мядзведзяў. Праўда, у Міністэрстве прыроды абвяргаюць гэтыя лічбы. Яны тлумачаць, што Белстат скарыстаўся памылковымі дадзенымі паляўнічых гаспадарак.



Эксперты Акадэміі навук кажуць, што ў рэальнасці ў краіне знаходзяцца ад 70 да 120 мядзведзяў. Аднак дакладнай інфармацыі няма — бракуе грошай на даследаванні.

**Ягор Марціновіч**

# Ад Віліі да Бярэзіны: якія беларускія рэкі самыя чыстыя і самыя брудныя?

Якія беларускія рэкі самыя чыстыя? Белстат апублікаваў дадзеныя аб канцэнтрацыі шкодных рэчываў у вадзе.

Статыстыка вядзецца па трох відах забруджванняў — азоце, фосфары і нітратах. Улічваецца іх канцэнтрацыя ў міліграмах на кубічны дэцыметр. Чым большая канцэнтрацыя, тым бруднейшая рака.

**Амоній-іоны (азот)**
Бярэзіна — 0,5
Заходні Буг — 0,43
Свіслач — 0,43
Прыпяць — 0,35
Дняпро — 0,31
Сож — 0,29
Мухавец — 0,22
Дзвіна — 0,22
Нёман — 0,19
Вілія — 0,18

**Фасфат-іоны (фосфар)**
Заходні Буг — 0,16
Мухавец — 0,1
Дняпро — 0,09
Бярэзіна — 0,09
Сож — 0,08
Свіслач — 0,07
Прыпяць — 0,05
Нёман — 0,05
Дзвіна — 0,04
Вілія — 0,03

**Нітраты (нітрат-іоны)**
Свіслач — 5,27
Бярэзіна — 5,27
Дняпро — 4,79
Нёман — 4,56
Сож — 4,39
Вілія — 4,25
Заходні Буг — 3,86
Мухавец — 2,84
Прыпяць — 2,53
Дзвіна — 2,04

«Наша Ніва» падсумавала тры спісы і склала выніковы рэйтынг:

**Выніковы рэйтынг чысціні**
1. Вілія
2. Заходняя Дзвіна
3. Прыпяць
4. Нёман
5. Мухавец
6. Сож
7. Дняпро
8. Свіслач
9. Заходні Буг
10. Бярэзіна

**Ягор Марціновіч**

# Памёр артыст Расціслаў Янкоўскі

Памёр вядомы артыст тэатра Расціслаў Янкоўскі.

Янкоўскаму было 86 гадоў. Ён меў званні заслужанага і народнага артыста БССР, народнага артыста СССР (1978).

Ён нарадзіўся ў 1930 у Адэсе ў сям'і шляхціца з беларуска-польскімі каранямі.

У Беларусь пераехаў з сям'ёй у 1957 і працаваў у Рускім тэатры.

Ягоны брат Алег Янкоўскі быў папулярным артыстам савецкага і расійскага кіно.

Расціслаў Янкоўскі быў дэпутатам прызначанага камуністамі Вярхоўнага Савета БССР (1985—1990). У палітычных спрэчках 90-х ён устаў на бок Аляксандра Лукашэнкі. У 2000-м, праз год пасля знікнення лідараў апазіцыі Ганчара і Захаранкі, Янкоўскі пагадзіўся стаць членам Савета Рэспублікі.

Сярод ягоных апошніх спраў было кіраванне журы кінафестывалю «Лістапад». Сярод ягоных апошніх значных роляў — спектакль «Пане Каханку».

**СГ**



# Пакеты ў «Кароне» стануць платнымі

З 1 ліпеня пакеты-майкі ў гандлёвай сетцы «Карона» стануць платнымі.

Іх кошт у залежнасці ад памеру будзе 1000 і 1500 рублёў.

Доўгі час пакеты ў сетцы «Карона» выдаваліся пакупнікам на касах бясплатна — на патрэбу. Гэта было адметнай асаблівасцю сеткі.

**gazetaby.com**




# Памёр былы кіраўнік Оперы Сяргей Картэс



На 82-м годзе жыцця памёр кампазітар Сяргей Картэс.

Сяргей Альбертавіч Картэс нарадзіўся 18 лютага 1935 у Чылі. Сям'я маці ў свой час эмігравала з Расійскай Імперыі ў гэтую краіну, а бацька быў чылійцам.

У 1947 годзе сям'я папрасіла савецкае грамадзянства. Прыезд у СССР стаў магчымым у 1955 годзе, месцам пражывання быў вызначаны Мінск.

Сяргей Картэс скончыў Беларускую кансерваторыю (1962). З 1966 г. — загадчык музычнай часткі Беларускага тэатра імя Я.Купалы. З 1972 г. — музычны рэдактар, галоўны музычны рэдактар кінастудыі «Беларусьфільм».

З 1991 года — мастацкі кіраўнік опернай трупы ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета Беларусі. У 1996 годзе ўстанова была падзелена на два самастойныя тэатры: оперы і балета. Картэс узначаліў першы з іх і на працягу 1996—2002 гадоў з'яўляўся мастацкім кіраўніком-дырэктарам Нацыянальнага тэатра оперы Рэспублікі Беларусь. З асобай Картэса звязана адкрыццё беларускага опернага мастацтва для еўрапейскай публікі.



# Ва Украіне забілі чупакабру

На Букавіне ў вёсцы Рукшын мужчына закалоў віламі невядомую істоту, якую знайшоў у сваім хляве.

У істоты доўгае тулава, яна мае даўжэзны хвост, вялікія вушы і шмат вострых зубоў.

Як распавядаюць мясцовыя, такіх істот было дзве, але адной ўдалося ўцячы.

Паляўнічыя апазналі ў істоце нездаровага янотападобнага сабаку. Хворыя на лішай асобіны страчваюць поўсць і выглядаюць вось так жахліва.

**СГ**

**Прыватныя абвесткі**

**Віншуем Таццяну і Сямёна** Печанко з нараджэннем дачкі Соні. Сябры

**Віншуем Настассю і Ярослава** Бекішаў з нараджэннем сына. Хай расце слаўны! Сябры

# Арон, сын Гунара з Акюрэйры — сціплыя ісландскія зоркі

**Ісландыя здзівіла** ўвесь свет. «Вікінгі» перамаглі англічан і выйшлі ў чвэрцьфінал Еўра-2016.



У 2011 годзе на моладзевым чэмпіянаце Еўропы па футболе ў Даніі наша каманда дэбютавала на турніры гульнёй з Ісландыяй. Беларусы перамаглі 2:0, галы забілі Варанкоў і Скавыш. Тады беларусы ўзялі бронзавыя медалі, выйшлі на Алімпіяду. Ісландцы ж нават не змаглі пераадолець групавы бар'ер.

Аран Гунарсан — 27-гадовы капітан сённяшняй зборнай Ісландыі — пяць гадоў таму быў выдалены з поля за грубасць. Правы фланг у гульні з англічанамі выпальваў Ёхан Гудмадсан, ён таксама быў у тым складзе ісландцаў. Пераможны гол англічанам забіў форвард французскага «Нанта» Калбейн Сігтарсан, ён таксама гуляў з беларусамі.

А што нашы хлопцы з таго складу? На больш-менш прыстойным узроўні выступаюць Філіпенка, Сівакоў, Паліцевіч, Палякоў. Але большасць згубілася нават не ў самым моцным чэмпіянаце Беларусі. Перапечка, Букаткін, Рэкіш, Варанкоў, Скавыш перамагалі калісьці тых ісландцаў, а сёння вандруюць недзе паміж Мазыром і Наваполацкам.

У гэтым, дарэчы, і галоўнае адрозненне футбаліста ісландскага ад беларускага. Ісландскі футбалісты ад дзяцінства заточаныя на тое, каб трапіць у найлепшыя клубы. Едуць у вялікі свет — Нарвегія, Швецыя, Бельгія, Расія, Італія, Швейцарыя, Брытанія, Германія, Францыя. У сённяшніх ісландцаў у складзе няма ніводнага гульца з унутранага чэмпіянату. «Вікінгі» разумеюць, што яны не ў стане ўкладваць вялікія грошы ў свае ўнутраныя спаборніцтвы, а таму танней выходзіць, калі гульцы мацуюцца ў замежжы.

Беларусы ж вельмі неахвотна з'язджаюць у Еўропу. Калі ёсць магчымасць за аднолькавыя грошы застацца ў Беларусі ці з'ехаць прафесійна расці ў моцны заходнееўрапейскі клуб, то нашы выбіраюць першае.

Што адрознівае ісландцаў ад валійцаў і палякаў, якія таксама сенсацыйна прайшлі на Еўра далёка? У палякаў ёсць у складзе суперзоркі — Левандоўскі і Блашчыкоўскі, у Уэльса — Бэйл і Рэмзі. Палякі і валійцы будуюць сваю гульню вакол гэтых персон. У ісландцаў жа зорных гульцоў няма зусім. Гэта каманда роўных.

Немагчыма не пагадзіцца з той думкай, што кліматычныя ўмовы, у якіх растуць людзі, адбіваюцца не толькі на іх характары, але і на гульні ў футбол. Ісландцы найменей сярод усіх 24 зборных Еўра валодалі мячом. Аднак, навучаныя ва ўмовах поўначы цярпець, ісландцы цярпліва чакаюць свайго шанцу.

Усе, хто быў у Ісландыі, адзначаюць, што ў гэтай краіне вялізная колькасць невялікіх кампактных стадыёнчыкаў для гульні ў футбол. Нікому не трэба шукаць месца, каб паганяць мяч, хопіць усім. Ужо не хочацца нават паўтараць завэдзганы штамп пра 330-тысячнае насельніцтва гэтай краіны. У футбол жа перамагаюць не колькасцю, а якасцю.

Таксама цікава назіраць, з якой непасрэднасцю ісландскія футбалісты глядзяць на гэтае Еўра. Напрыклад, Ары Скуласан пасля перамогі над Англіяй шчыра пісаў у твітары: «Што за х*рня толькі што здарылася?» Ісландцы разумеюць, што яны андэрдогі. Каманда, на якую ніхто не ставіць, за якой не сочаць, якая карыстаецца такім становішчам.

Або яшчэ быў забаўны выпадак. Пасля нічыёй з Партугаліяй (1:1) Арон Гунарсан захацеў абмяняцца футболкай з Крышціяну Раналду. Партугальская зорка пагардліва паглядзела на «вікінга».

— Эй, Раналду, давай абмяняемся футболкамі.

– Абмяняемся? А хто такі?

– Я Арон. Сын Гунара з Акюрэйры ў Ісландыі.

У гэтым дыялогу не толькі нейкая наіўнасць і простасць ісландскага футбаліста, але і пашана да сваіх каранёў, што вельмі важна для ісландцаў. У ісландцаў няма прозвішчаў. Тое, што мы лічым за прозвішчы, — гэта імя па бацьку. Гунарсан — гэта сын Гунара.

У выніку Гунарсан усё ж атрымаў майку ад Раналду. Радасны ісландзец выклаў здымак з футболкай у твітары. Але парадокс у тым, што сын Гунара з Акюрэйры можа прайсці па лесвіцы Еўра далей за свайго куміра.

**Зміцер Панкавец**



**Чылі ў другі раз запар перамагло на «Копа Амерыка»**

У ЗША ўадзін час з Еўра праходзіў найбольшы турнір зборных абедзвюх Амерык. У фінале Чылі па пенальці перамагло Аргенціну. З такім самым вынікам скончылася і папярэдняя «Копа». Зорка аргенцінцаў Месі не забіў пасляматчавы пенальці, а пазней заявіў пра сканчэнне сваёй кар'еры за зборную. Найлепшым гульцом турніра быў прызнаны чыліец Алекс Санчас з «Арсенала».

## Гульцы зборнай Расіі пабіліся паміж сабой перад сустрэчай з Уэльсам

Цікавыя падрабязнасці выплываюць пра побыт каманды Расіі.

Напэўна, многія звярнулі ўвагу, што паўабаронца Павел Мамаеў выйшаў на апошнюю гульню з рассечаным брывом. Доктар зборнай Расіі ў каментары сказаў, што не ведае, адкуль узялося рассячэнне, а яго паклікалі проста накласці швы.

Цяпер расійскія журналісты дакапаліся да таго, што стаяла за гэтым інцыдэнтам. Пасля няўдалай сустрэчы са зборнай Славакіі (1:2) Павел Мамаеў зайшоў у раздзявальню Расіі на эмоцыях. Маўляў, з такой камандай нават унічыю сорамна гуляць, а не тое што прайграваць.

Пасля гэтага Мамаеў накінуўся з крыткай на галоўнага трэнера зборнай Леаніда Слуцкага, які «выстаўляе ў складзе гэтае га... но». Маецца на ўвазе Раман Найштэдтэр, адзін легіянер у складзе зборнай Расіі. Напярэдадні Еўра яму далі расійскае грамадзянства, бо бацькі Найштэдтэра былі з Расіі. Гэта было выкарыстана для палітычнага піяру. Гуляе футбаліст у чэмпіянаце Германіі за «Шальке-04».

Слуцкі прапусціў тады гэтыя словы, аднак назаўтра папрасіў Мамаева выбачыцца за сваё паводзіны. На гэта Мамаеў ізноў адрэагаваў вельмі востра. Пачалася слоўная перапалка. Скончылася гэта тым, што капітан зборнай Расіі Раман Шырокаў проста ўдарыў Мамаева, збіўшы яго з ног. Далейшую бойку не дапусцілі гульцы зборнай.

Самі футбалісты пакуль абвяргаюць такую версію.

Пасля такога скандалу зборная Расіі разгромна саступіла Уэльсу — 0:3.

**ЗП**

# Героі трэцяга тыдня



**Тоні Кроас (Германія)**

Адзін з самых незаўважных механізмаў нямецкай машыны. Кроас не забівае галы, не кладзецца пад мячы ў абароне. Тым не менш Кроас — геніяльны футбаліст. На гэтым Еўра ён аддае ў сярэднім па 111 перадач за гульню, з іх 94% дакладных. Такіх паказчыкаў няма больш ні ў кога на свеце. Мяч нібыта магнітам цягнецца да ног немца. Яго называюць найлепшым у свеце майстрам перадгалявога паса. Кроас — адзін з нямногіх гульцоў Германіі, хто нарадзіўся ў ГДР, а не ФРГ.



**Джанлуіджы Буфон (Італія)**

Часам складваецца адчуванне, што гэты футбаліст быў абсалютна заўсёды. Калі мы чуем «зборная Італія», то адразу ўзгадваем Буфона. Яму 38 гадоў, і, мабыць, гэта апошні топчэмпіянат славутага брамніка. У сваім ветэранскім узросце Буфон усё такі ж эластычны і надзейны. Абаронцы не скаваныя страхам здзейсніць памылку, бо адчуваюць, што ў іх за спінамі ёсць той, хто заўсёды можа падстрахаваць. Фактар Буфона быў вызначальны ў перамозе Італіі над Іспаніяй (2:0).



**Антуан Грызман (Францыя)**

Яшчэ год назад пра гэтага 25-гадовага бургундца ніхто не чуў. Ён пяць гадоў верай і праўдай адслужыў сціпламу клубу «Рэал Сасьедад» з Краіны Баскаў, пасля чаго яго набыў мадрыдскі «Атлетыка». У сталіцы Іспаніі Грызман раскрыўся. У мінулым чэмпіянаце ён быў адным з найлепшых бамбардзіраў Іспаніі, тады пра яго і загаварылі ўсур'ёз. Грызман стаў архітэктарам перамогі Францыі над Ірландыяй у 1/8 Еўра (2:1), Антуан забіў абодва галы.

# Як сілавікі перакрылі дарогу ў дачны пасёлак работнікаў БТ

З тымі, хто карыстаецца забароненай дарогай, абяцае разабрацца «**спецыяльная служба**».

«Просім аднавіць законнае права на праход да сваіх будынкаў і ўчасткаў, а таксама на праезд хуткай дапамогі, міліцыі і ратавальнікаў», — пішуць у генеральную пракуратуру былыя работнікі Белтэлерадыёкампаніі. Адзіную дарогу, якая вядзе ў іх садовае таварыства «Хваля-2001», перагарадзілі для будоўлі пасёлка сілавікоў.

Канфлікт паміж двума дзясяткамі былых тэлевізійшчыкаў і сотнямі работнікаў сілавых ведамстваў разгарэўся ў полі каля вёскі Ганчароўка Смалявіцкага раёна — гэта некалькі кіламетраў ад Кургана Славы.

Работнікі тэлебачання атрымалі свае надзелы яшчэ ў пачатку 1980-х. «Нам выдзеліла Белтэлерадыё. Я пры Бураўкіну працаваў. Гэта цяпер і АНТ, і СТБ, а тады быў адзін галоўны канал... — расказвае Уладзімір Душкевіч, былы галоўны рэдактар «Панарамы» і намеснік генеральнага дырэктара радыё. — Тут надзел дыктаркі Тамары Бастун. Побач — кінарэдактар Таццяна Гетман, дом сям'і футбольнага каментатара Мікалая Петрапаўлаўскага. Увесь горад сюды прыязджаў па маліны...»

Цяпер склад таварыства часткова змяніўся — некаторыя гаспадары прадалі сваю зямлю.

Каб дабрацца да сваіх лецішчаў, тэлевізійшчыкі ехалі па лясной дарозе. Праўда, з цягам часу дрэвы высеклі, і лес ператварыўся ў поле.

«На гэтай тэрыторыі ссечана больш за сотню дубоў. Ад 10 да 20 гадоў дрэвам — усё знішчана... Я хімік па адукацыі, экалогіяй займаюся, вывучаю прадукты гарэння ўсіх будаўнічых матэрыялаў, — тлумачыць навуковы супрацоўнік БДУ Дзмітрый Кляўчэня. — Я тут 32 гады. Каля 100 дубоў маіх тут, адно дрэва ў гонар унука пасадзіў! Пасадзіў і ялінкі. Думаў, што нашчадкам гадаваў. Даглядаў, абкошваў кожны год... Частку зрэзалі ўжо. Потым па плане ў іх тут наогул усё ссекчы».

Год таму жыхары «Хвалі» пабачылі пасярод поля калкі з пазнакай «мяжа забудовы». Як выявілася, мясцовыя ўлады выдзелілі зямлю для стварэння новага садовага таварыства «Вектар-2012». А тыя паспелі «нарэзаць» каля 200 участкаў для будаўніцтва дамоў і размеркаваць іх. Ніякага грамадскага абмеркавання пры гэтым не праводзілася.

Цікавая дэталь: у жніўні 2014 года быў падпісаны ўказ №387, які змяняў нормы выдзялення ўчасткаў пад новыя садовыя таварыствы. Паводле яго, з 1 студзеня 2015 года зямлю каля Мінска можна было атрымаць толькі праз аўкцыёны. Дык вось, «Вектар» атрымаў зямлю роўна за дзень да забароны. Смалявіцкі лясгас атрымаў кампенсацыю памерам 490 мільёнаў рублёў.

Будаўніцтва новага пасёлка пакуль не вядзецца, але аўтамабільнай дарогі праз поле для жыхароў «Хвалі» больш няма. Застаецца іншы шлях — праз дзірку ў плоце суседняга садовага таварыства.

Ну а хуткая дапамога ці ратавальнікі не праедуць зусім ніяк, бо дарога перагароджана сеткай «Вектара».

«Ехаў мой пляменнік, вёз дзве бочкі. Мы вырашылі раскрыць сетку, выгрузілі, ён з'ехаў — зачынілі. Па нумары машыны знайшлі яго тэлефон, патэлефанавалі: з вамі будзе разбірацца спецыяльная служба, — абураецца жыхарка «Хвалі» Тамара Міхайлаўна. — Што мы парушылі? Мы газ замаўляем у Жодзіне, і як цяпер?»

«Выступае вось прэзідэнт за паўтара дні да таго, як пачалі высякаць, і кажа: «Лес — наша здароўе, лес — наша багацце, яго трэба захоўваць», — узгадвае Валянціна Гаўрылаўна, жонка Уладзіміра Душкевіча. — Праз паўтара дня тэлефануе сусед Валодзя: што вы там седзіце? А лес жа ўжо высякаюць. Мы прыязджаем — сякуць поўным ходам».

«Цяпер варыянты два. Або праз дзірку, або праціснуцца паміж двума платамі. Інваліды ёсць у нас, пажылыя, з кіёчкамі многія. Я яшчэ як кошка тут», — удакладняе Ала Вікенцьеўна з Мінкульта.

Што ж за загадкавы «Вектар» са сваёй «спецыяльнай службай» перакрыў дарогу тэлевізійшчыкам? Жыхары «Хвалі» знайшлі спіс тых, хто стане іх суседзямі. Абсалютная большасць з гэтых 200 чалавек — мужчыны 30—50 гадоў, у спісе толькі дзве жанчыны. Адметна, што фактычна ніводнага з гэтых імёнаў няма ў сацыяльных сетках — як вядома, такая рэкамендацыя існуе для супрацоўнікаў сілавых ведамстваў. Некалькі «вектараўцаў» прапісаныя ў інтэрнатах МУС, некалькі — у інтэрнаце Галоўнага гаспадарчага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта. Дзясяткі іншых сілавікоў зарэгістраваныя ў розных кватэрах адных і тых жа дамоў на сталічных вуліцах Нёманскай і Скрыпнікава.



**Чапаць сетку, выстаўленую «Вектарам», дачнікі баяцца.**



**«Хваля» ўяўляе сабой старыя хаткі, пабудаваныя яшчэ ў 1980-я.**



**Адзіны спосаб змагання — збор подпісаў.**

У землеўпарадкавальнай службе Смалявіцкага райвыканкама пацвярджаюць, што гаспадары надзелаў у «Вектары» — прадстаўнікі сілавых структураў. Зямля ім выдзялялася ад ведамства, чалавек з вуліцы прэтэндаваць на ўчасткі не мог. Больш за тое, вакол «Хвалі» неўзабаве з'явіцца яшчэ два новыя садовыя таварыствы — «Лавіна» і «Стралец». Яны таксама паспелі аформіцца да ўступлення ў сілу зменаў у заканадаўстве.

Пра канфлікт садовых таварыстваў чыноўнікі ведаюць. Але зрабіць нічога не могуць. «Афіцыйнай дарогі ў «Хвалю» няма. У іх ёсць толькі заезд, а дарога за імі не замацоўваецца. У іх будзе прадугледжаны праезд праз іншыя два садовыя таварыствы, якія пакуль што яшчэ на стадыі афармлення», — тлумачаць у землеўпарадкавальнай службе.

Чыноўнікі кажуць, што такая сітуацыя склалася ўпершыню.

«Давайце я пайду да гэтага Лукашэнкі!.. Мне ўнукі купілі 5 балонаў газу. А як іх прывезці?» — кажа давядзеная да адчаю 84-гадовая бабуля з «Хвалі».

**Ягор Марціновіч, Кацярына Сінюк, фоты Аляксандра Васюковіча**

# Вітанне калектыву Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі

Хачу праз газету перадаць вітанне калектыву Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі.

Паважаныя вярхоўцы і ўсе, хто жыве ў іншых населеных пунктах! Віншую Вас з вяртаннем на роднае прадпрыемства вашага дырэктара Ганны Шарэйка. Не кожнага будуць так сустракаць. Значыць, яна ў вас гэтага заслужыла. Я сам некалі працаваў на вашай фабрыцы. Тады яна працавала яшчэ добра. А потым, як кажуць, ляжала «на лапатках». І гэтая жанчына ўзяла на сябе ўвесь цяжар праблем і вывела прадпрыемства на сусветны ўзровень.

Напісана ж: «Праведны апраўдаецца на любым судзе». Сапраўды, як пяецца ў песні: «А жанчына Ганна — гаспадыня гарна». Гэта сапраўдная гаспадыня, паболей бы такіх кіраўнікоў у нашай Беларусі. Пакуль будуць такія гаспадарлівыя людзі, будзе жыць Беларусь.

Удачы, шчасця вам, паважаная Ганна Васілеўна!

**Сяргей Ціханавец, Бягомль (Віцебская вобласць)**

* * *

Да Эдуарда Пальчыса дачапіліся праз тое, што гэты сапраўдны патрыёт-нацыяналіст і стварыў патрыятычны сайт 1863x.com.

А смерць Ігара Канановіча мне нагадала пра заўчасную смерць Яні Паляковай — у тым вінаватая антынародная ўлада.

**Ніна Багінская, Мінск**

### Спачуванні родным Таццяны Рослік

Дарагая наша Таццяна Рослік сышла з гэтага свету ў 69 гадоў. Яна была бясконца добрым, чулым, працавітым і справядлівым чалавек. Дай бог дабра ўсім, хто застаўся пасля яе. І дай бог каб засталіся любоў і справядлівасць, якія яна спавядала. Сябры

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# На вадзе асцерагайцеся гідрацыклаў

Гарачае надвор'е гоніць людзей да вадаёмаў. Але ж не трэба забывацца, што вада — гэта не толькі забаўка, але і небяспека.

У нядзелю, 26 чэрвеня, 32-гадовы мужчына, што купаўся ў Бярэзіне, загінуў у выніку наезду гідрацыкла. Надзвычайнае здарэнне адбылося ў Барысаве.

У МНС паступіла паведамленне пра сутыкненне гідрацыкла «Ямаха XL-1200» з чалавекам, які плаваў у рацэ. Работнікі МНС знайшлі і дасталі з вады патанулага грамадзяніна.

Таксама ў нядзелю жыхары вёскі Дзяржынск выявілі ў рацэ Сцвіга целы трох падлеткаў. Двум з іх было па 16 гадоў, аднаму — 18. Абставіны здарэння высвятляюцца.

24 чэрвеня ў 23.05 паступіла паведамленне аб тым, што на вадаёме каля вёскі Стараселле Шклоўскага раёна патануў малады чалавек. Пазней падчас пошукаў у ноч з 24 на 25 чэрвеня супрацоўнікі Асвода выявілі за два метры ад берага на глыбіні паўтара метра труп юнака 1999 года нараджэння.

А ў Буда-Кашалёўскім раёне ў вёсцы Губічы патануў 7-гадовы хлопчык.

Ён гуляў на вуліцы, затым накіраваўся за вёску да вады — там яго і ўбачылі аднавяскоўцы.

«Там штучны вадаём 10 на 30 метраў. Хлопчык прагульваўся ўздоўж берага, спатыкнуўся і трапіў на глыбіню. Непадалёку ў агародзе працавалі людзі, падбеглі, дасталі яго з вады, але было ўжо позна», — распавялі ў Асвод.

Вядома, што хлопчык скончыў у гэтым годзе першы клас. У сям'і, дзе ён рос, пяцёра дзяцей.

Яшчэ двое падлеткаў патанулі ў Бярозаўскім раёне. Яны збіраліся ў заклад пераплысці кар'ер, але ў выніку абодва не змаглі выбрацца з вады.

Падлеткі прыехалі на кар'ер на роварах утрох. Сябар хлапчукоў застаўся на беразе, а Саша і Ягор пайшлі купацца. Кар'ер яны пераплылі, але на зваротным шляху сіл хапіла на метраў 15—20. Пакуль людзі пачулі крыкі, пакуль патэлефанавалі ў МНС... Вадалазы дасталі целы з глыбіні каля 4 метраў.

Усяго ў вадаёмах рэспублікі з пачатку года загінула 112 чалавек, з іх 10 — непаўналетнія. Пры купанні з пачатку купальнага сезона ў маі патанулі 21 дарослы і 5 дзяцей.

**УШ**

# У Мінску раварыст бітай аглушыў пешахода, які ішоў па веладарожцы

Фатограф Васіль Дземідовіч ў нядзелю19 чэрвеня каля восьмай вечара разам са знаёмай вяртаўся дадому са здымак. На вуліцы Глебкі, недалёка ад царквы, у яго ўрэзаўся раварыст.

«Пару гадоў таму гэтую дарожку разбілі на дзве часткі: для пешаходаў і раварыстаў, — успамінае Васіль. — Калі я вяртаўся дадому, людзей на пешаходнай было шмат, і я выйшаў на веладарожку. У нейкі момант убачыў: насустрач ляціць раварыст. Першае, пра што падумаў: справа ўтаптаная трава, ён паверне і спакойна аб'едзе. Вядома, я і сам мог адысці, але «стармазіў», з кім не бывае?!»

Урэзаўшыся ў Васіля, раварыст упаў.

«У мяне самога ровар ужо 11 гадоў. Лётаў і падымаўся, — працягвае малады чалавек. — Думаю, асаблівых траўмаў ён не атрымаў, так, крыху праехаўся на каленях».

Што адбылося далей, Васіль усвядоміў не адразу. Проста ў нейкі момант заўважыў: раварыст ускочыў і бяжыць за ім, размахваючы кулакамі.

«Я пабег ад яго. Ну, а што мне было рабіць?! Біцца? — відаць, што стрымаць эмоцыі Васілю становіцца складана. — «Я што, павінен цябе пераскокваць?!» — крычаў ён наўздагон. А потым выхапіў біту і ўдарыў мяне па галаве. На пару секунд я страціў прытомнасць. Калі ачуняў, заўважыў: ён з'язджаў у бок Кунцаўшчыны».




Хлопцу разбілі галаву бітай.

З месца аварыі Васіля павезла хуткая. У маладога чалавека ЧМТ, сіняк пад вокам, яму наклалі швы на лбе, і як мінімум дзесяць дзён ён правядзе ў бальніцы. У той жа вечар бацькі пешахода напісалі заяву ў Фрунзенскае РУУС Мінска.

«Я ж сам раварыст, колькі разоў трапляў у такія сітуацыі, але заўсёды аб'язджаў пешаходаў, — заканчвае Васіль. — Вядома, я не раз чуў пра спрэчкі раварыстаў і пешаходаў, але ніколі не бачыў, каб яны вырашаліся кулакамі. Калі яшчэ б той, хто мяне збіў, быў падлеткам — але ж там здаровы мужык гадоў 35. Трэба ж думаць, што робіш!»

23 чэрвеня супрацоўнікі аддзела крымінальнага вышуку Фрунзенскага РУУС сталіцы затрымалі чалавека з бітай. Ім аказаўся 30-гадовы раней не судзімы мінчук.

У дачыненні да затрымананага заведзена крымінальная справа за хуліганства. Яму пагражае ад 3 да 10 гадоў пазбаўлення волі.

**Tut.by**

## Пад Крупкамі слесар ашалеў і на пагрузчыку спрабаваў расціснуць трактар з кіроўцам

У Крупскім раёне слесар на пагрузчыку прыціснуў трактар, у кабіне якога знаходзіўся кіроўца, а затым кінуўся пад цягнік, паведаміў начальнік прэс-службы УУС Мінаблвыканкама Яўген Сачак.

Інцыдэнт адбыўся ў аграгарадку Ухвала каля будынка рамонтна-машыннай майстэрні.

Слесар гэтага прадпрыемства — мужчына 1971 года нараджэння, кіруючы пагрузчыкам, наўмысна зрабіў каўшом тры ўдары па трактары, у кабіне якога быў кіроўца 1964 года нараджэння. У выніку трактар перакуліўся. Затым слесар на пагрузчыку прыціснуў трактар каўшом да будынка, праз што дэфармавалася кабіна. Праўда, трактарыст паспеў выскачыць з яе.

Калегі спрабавалі затрымаць слесара, але той кінуўся пад лакаматыў, які ехаў па вузкакалейнай чыгунцы.Так і загінуў.

Па факце замаху на забойства заведзена крымінальная справа, праводзіцца праверка. Адна з версій следства — праблемы з псіхічным здароўем слесара.

**УШ**

## Абвінавачаны ў забойстве Юліі Балыкінай прысуджаны да 23 гадоў

У Мінскім гарадскім судзе 27 чэрвеня завяршыўся працэс па справе аб жорсткім забойстве лёгкаатлеткі Юліі Балыкінай. Абвінавачаны ў забойстве Дзмітрый Вішталюк, былы блізкі сябар Балыкінай, прыгавораны да 23 гадоў пазбаўлення волі. Бацькі забітай прасілі суд прысудзіць яго да найвышэйшай меры пакарання.

Вішталюк таксама павінен выплаціць сваякам забітай, якія выступаюць пацярпелымі па справе, матэрыяльную кампенсацыю ў 539 млн рублёў.

Трагедыя здарылася 28 кастрычніка 2015 года. Вішталюк спрабаваў паправіць нацяжную столь у ванным пакоі. Юлія, паводле яго слоў, пачала выстаўляць прэтэнзіі да якасці працы. Потым перайшла на асабістыя тэмы, завязалася сварка. У руках маладога чалавека быў малаток, якім ён нанёс спартсменцы некалькі ўдараў па галаве.

І хоць, паводле слоў Вішталюка, забойства ён не планаваў, наступныя тры дні ён разважаў, як схаваць цела і зняць з сябе падазрэнні. Спачатку Вішталюк пакінуў кватэру дзяўчыны, потым вярнуўся, каб забраць цела. На машыне забітай выехаў за межы Мінска і пакінуў аўтамабіль блізу чыгуначнай станцыі. На наступны дзень прыехаў туды, каб забраць цела і закапаць яго ў лесе.

Сямнаццаць дзён прадстаўнікі праваахоўных органаў пры дапамозе валанцёраў і вайскоўцаў шукалі зніклую дзяўчыну. Яе цела было знойдзенае ў Смалявіцкім раёне.

**Адар'я Гуштын, БелаПАН**

# Гімназіста, які, як падазраюць, з-за спіны пераразаў горла настаўніцы, правяраюць псіхіятры

Не выключана, што ў найбліжэйшы час 15-гадоваму падлетку выставяць абвінавачванне.

— Расследаванне справы працягваецца, у нас ужо ёсць канкрэтныя вынікі. Мы атрымалі заключэнне геномнай экспертызы, у адпаведнасці з якой уся кроў на вопратцы, на заплечніку затрыманай асобы, належыць менавіта пацярпелай, — заявіў старшыня Следчага камітэта Іван Наскевіч. — Гэта дае нам падставы лічыць яго падазраваным па справе. Хутчэй за ўсё, мы менавіта яму выставім абвінавачванне ў здзяйсненні нападу на настаўніцу гімназіі.

15-гадовы падлетак Д., вучань сталічнай гімназіі №74, быў затрыманы 23 мая. У тую раніцу вучні 9 класа павінны былі здаць верш па рускай літаратуры. Паводле папярэдняй інфармацыі, Д. зайшоў у кабінет і ззаду пераразаў настаўніцы горла. Жанчыну ледзь уратавалі.

Пасля гэтай гісторыі некаторыя бацькі, чые дзеці вучацца гімназіі №74, распавялі, што ў шмат якіх вучняў былі напружаныя адносіны з той патрабавальнай настаўніцай. Яны нават хадзілі да дырэктара, але пытанне не вырашалася.

Настаўніцу ўжо выпісалі з бальніцы, але на работу яна яшчэ не выйшла. Магчыма, узяла адпачынак.

Некаторыя дзеці забралі дакументы і сышлі з гімназіі: нехта ў іншую школу, хтосьці вырашыў паступаць у ліцэй.

**Паводле Kp.by**

## Сцісла

### Дзіця патанула, спалохаўшыся кароў

Днём 27 чэрвеня ў вёсцы Бальшавік Гомельскага раёна, у невялікім штучным вадаёме, патанула 10-гадовая школьніца. Мясцовая бабуля гнала па дарозе свой статак, у якім тры быкі і пяць кароў. Насустрач ішлі дзве школьніцы. Жывёлы пачалі бадацца адно з адным, дзяўчынкі спалохаліся і сышлі ў ваду. Дно там глеістае, і дзяўчынак, мяркуючы па ўсім, стала засмоктваць. Мінак выцягнуў з вады адну дзяўчынку, тая сказала, што з ёй была сяброўка. Мясцовыя падлеткі кінуліся ў ваду і знайшлі на дне дзяўчынку, але было позна — дзіця ўжо памерла.

### Бяда ў Талачынскім раёне

11-месячная дзяўчынка перакуліла на сябе кубак з кіпенем, пакуль маці займалася старэйшым дзіцем. З тэрмічнымі апёкамі тулава, галавы і шыі дзіця даставілі ў абласную клінічную бальніцу. Дзяўчынка памерла ў аддзяленні рэанімацыі.

### 7 гадоў за смяротную хваробу

34-гадовы жыхар Буда-Кашалёва атрымаў 7 гадоў за наўмыснае заражэнне ВІЧ дзвюх жанчын. Абвінавачанаму таксама прызначана прымусовае лячэнне ад хранічнага алкагалізму.

### ДТЗ з ласём

У Мінску лось трапіў пад колы маршруткі. Кіроўца не пацярпеў. Жывёла атрымала траўмы, але выжыла. Яе перадалі спецыялістам.

### Дзіця выпала з акна

Увечары 22 чэрвеня ў Светлагорску з акна кватэры на трэцім паверсе выпала двухгадовая дзяўчынка. Дзіця атрымала траўмы лёгкага і знаходзіцца ў рэанімацыйным аддзяленні ў цяжкім стане пасля зробленай аперацыі. Праводзіцца праверка, па папярэдняй інфармацыі за дзіцём магла недагледзець бабуля.

**УШ**

# Сяргей Жадан: У Мінск прыязджаеш як дадому

Славуты **украінскі пісьменнік** Сяргей Жадан на некалькі дзён завітаў у Мінск дзеля прэзентацыі кнігі «Варашылаўград» па-беларуску. У кнігарні «Логвінаў» Жадан паразмаўляў з карэспандэнтам «Нашай Нівы» аб радасцях і расчараваннях, Украіне і Беларусі, вайне і творчасці.




**Сяргей Жадан**

нарадзіўся ў 1974 у гарадку Старабельск Луганскай вобласці (Украіна). Паэт, празаік, перакладчык, рок-музыкант. Адзін з найбольш папулярных творцаў Украіны. Ягоныя раманы «Дэпеш Мод», «Anarchy in the UKR», «Варашылаўград» выходзілі па-беларуску. Летась пабачылі свет дзве новыя кнігі Жадана — паэтычная «Жыццё Марыі» і эсэістычная «Калі спадзе спёка». Жыве ў Харкаве.

**«Наша Ніва»: Сяргей, што вас сёння найбольш радуе ва Украіне?**

**Сяргей Жадан:** Радуюць тыя змены, што адбываюцца ўнутры ўкраінскага грамадства, у галовах украінцаў. Магчыма, гэта не надта заўважна на першы погляд, яны не кардынальныя, але яны адбываюцца. Людзі нарэшце пачынаюць разумець, што ў іх ёсць краіна і яны адказваюць за яе. І гэта добра, бо і наша рэвалюцыя, і пачатак баявых дзеянняў выявілі інфантыльнасць украінцаў.

**«НН»: У чым гэтая інфантыльнасць выражалася?**

**СЖ:** У неразуменні сваіх правоў і абавязкаў. Гэтыя рэчы з'яўляюцца базавымі ў нармальных краінах. А цяпер пачаўся такі перыяд, калі стала зразумела, што абмінаць гэтыя пытанні ўжо нельга.

**«НН»: А што гэта за пытанні?**

**СЖ:** Ну хаця б дэкамунізацыі. Я падтрымліваю такі рух. Мне заўсёды здавалася, што жыць савецкім мінулым — немагчыма. Гэта трэба было яшчэ вырашаць у 1991-м, але ніхто не займаўся. Мы гаварылі пра еўраінтэграцыю, пры гэтым мелі на кожнай плошчы помнік Леніну.

**«НН»: Патрабаванні, з якімі людзі выходзілі на Майдан, выконваюцца?**

**СЖ:** Украіна стала бліжэйшай да Еўропы. Але за гэтае набліжэнне мы заплацілі высокую цану — крывёй.

**«НН»: Вы кажаце пра высокую цану. Уявім, калі б вы ведалі, чым скончыцца Майдан, то ці сталі б яго падтрымліваць?**

**СЖ:** Вы ж цудоўна разумееце, што гісторыя не мае ўмоўнага ладу! Гэта не камп'ютарныя гульні. Украінская рэвалюцыя была немінучай. Частка ўкраінскага грамадства не хацела жыць пры такой сістэме, як за Януковічам. Для мяне выбар быў відавочны: я ніколі не прымаў уладу Януковіча, я супраць яе пратэставаў. Калі людзі выйшлі на плошчы, то я быў з гэтымі людзьмі. Тыя людзі, якія выходзілі на Майдан, хто ішоў добраахвотнікам на вайну, яны ўсведамлялі свае рызыкі.

**«НН»: Ніхто ж не чакаў, што гэта ўсё скончыцца тэрытарыяльнымі стратамі, вайной…**

**СЖ:** Канечне, не. Ніхто не думаў ні пра акупацыю Крыма, Данбаса. Але думалі ў іншых краінах. І анексія Крыма, і спроба разваліць краіну рыхтаваліся не тыдзень-два.

**«НН»: Вы даўно не былі ў сваім родным Луганску?**

**СЖ:** Апошні раз я там быў пры канцы красавіка 2014 года. У мяне там ёсць розныя знаёмыя, таму я маю розныя версіі падзей. Тыя, хто падтрымлівае «ЛНР», спрабуюць усяляк дэманстраваць аптымізм, што яны маладая рэспубліка, яны развіваюцца, у іх нармальнае жыццё. Іншыя кажуць, што там мноства праблем. «ЛНР» і «ДНР» ёсць штучнымі ўтварэннямі, нежыццяздольнымі.

**«НН»: Вы верыце, што гэтыя рэгіёны вернуцца ва Украіну?**

**СЖ:** Перакананы. Пытанне толькі ў тым, калі, як і на якіх умовах.

**«НН»: Ваша жыццё з пачаткам вайны змянілася?**

**СЖ:** Вайна вызначае ўсё. Хоць я і не ваюю. Мы ездзім на ўсход Украіны з выступамі, гуманітарнай дапамагой. Імкнёмся падтрымліваць і вайскоўцаў, і цывільных, і параненых, і бежанцаў, і перасяленцаў. Для мяне сёння ёсць вайна і ёсць усё іншае.

**«НН»: У вас змянілася стаўленне да Расіі?**

**СЖ:** Само сабой. А як паіншаму? Краіна, якая дэкларуе сваё братэрства, уводзіць войскі, забівае тваіх суграмадзян...

**«НН»: А што ва Украіне сёння вас засмучае?**

**СЖ:** Расчароўвае палітыка. Людзі прыйшлі да ўлады на хвалях рэвалюцыі, а фактычна паўтараюць палітыку сваіх папярэднікаў. Я бачу выхад у далейшай барацьбе, нельга спыняцца і адыходзіць ад таго, што дэкларавалася на Майдане.

**«НН»: Вы тут займаеце такую радыкальную пазіцыю.**

**СЖ:** Чаму? Яна якраз дастаткова спакойная. Я ж не заклікаю ўсіх расстраляць ці павесіць. Я проста кажу, што трэба працягваць тую работу, якую мы пачалі зімой 2013—2014 гадоў. Мне цяжка разумець дзеянні ўкраінскага прэзідэнта. Ён страчвае шанец як для сябе, так і для цэлай краіны.

**«НН»: Вайна адкрывае новыя прасторы для творчасці?**

**СЖ:** Не зусім карэктна так казаць. Гэта не крыніца натхнення. Але на вайне ты бачыш вялізную колькасць фантастычных, незвычайных людзей. Гэта такі разлом. Разломваецца грунт, і ты бачыш такое, што б не пабачыў ніколі ў жыцці.

Я пішу. Цяпер я пішу раман пра вайну.

**«НН»: Падчас вайны людзі пачынаюць менш чытаць, так мяркуецца.**

**СЖ:** Ды не. Такая драматычная сітуацыя, наадварот, выклікае большую зацікаўленасць мастацтвам. Частцы людзей мастацтва важнае як тэрапія, яно дазваляе нешта зразумець у сабе. Калі мы ездзім на Данбас, то мы бачым у мястэчках, у якія ніхто да мяне не прыязджаў, што людзі адкрываюць для сябе зусім іншы від камунікавання. Яны бачаць, што пісьменнік — гэта не толькі той, хто ў хрэстаматыі, але і жывы чалавек, з якім можна паразмаўляць.

**«НН»: Украінскае грамадства за гэтыя два гады аб'ядналася?**

**СЖ:** У нейкай ступені так. Аднак я не маю тут асаблівых ілюзій, існуюць вельмі глыбокія расколы.

**«НН»: А ці існуе раскол паміж усходам і захадам Украіны, пра які кажа расійская прапаганда?**

**СЖ:** Не-не-не, яго няма. Я жыву ў Харкаве — гэта тыповы ўсходні горад. Але з пачаткам баявых дзеянняў у Харкаве ўтварыўся вельмі моцны валанцёрскі рух. Прычым шмат хто з іх не падтрымліваў Майдан, але з пачаткам вайны зразумеў пагрозу незалежнасці. Часта нават не ўкраінцы — рускія, яўрэі, армяне. Іншыя ж надалей глядзяць расійскае тэлебачанне. Таму раскол існуе паміж актыўнасцю і пасіўнасцю, а не паміж захадам і ўсходам. На захадзе таксама розныя людзі. Частка там актыўна дапамагае, ідуць на фронт, валанцёрамі, а некаторыя лічаць, што ўсходнікі самі пачалі вайну, то няхай самі і рашаюць.

**«НН»: Чаму не ўдалося адарваць ад Украіны Харкаў?**

**СЖ:** Думаю, што вялікую ролю сыграў выпадак. Можна было не аддаваць і Луганскую з Данецкай вобласці. Калі я быў там вясной 2014-га, то не бачыў там вялікай падтрымкі сепаратысцкага руху. Гэта была малая група людзей, якая выкрыквала лозунгі, прыдуманыя за мяжой. Усё гэта выглядала штучна. Тое, што там здарылася, — прэтэнзія да былога і цяперашняга кіраўніцтва краіны.

**«НН»: Ваш калега Юрый Андруховіч некалі пісаў, што «славянскі свет», апроч Польшчы, кінуў Украіну адзін на адзін са сваёй бядой. Вы згодны?**

**СЖ:** Так, Польшча падтрымлівае. А паводзіны чэшскіх палітыкаў дзіўныя. Такое ўражанне, што яны проста забыліся, што такое 1989 год, што такое расійская акупацыя.

Адносна Беларусі я не магу сказаць, што яна нам здрадзіла. Беларусь выступае пасярэдніцай.

**«НН»: Як ва Украіне адрэагавалі, калі Святлана Алексіевіч атрымала Нобеля?**

**СЖ:** Пазітыўна. Мне часам нават здавалася, што ўкраінцы больш радаваліся яе прэміі, чым беларусы. Я сачыў аднача-сова, як рэагавалі расіяне, дык столькі бруду, жоўці, зайздрасці, комплексаў...

**«НН»: Як ва Украіне змяняецца стаўленне да ўкраінскай мовы?**

**СЖ:** Змяняецца ў бок папулярызацыі. Мне прыемна, што гэта не навязваецца зверху, а робіцца на нізавым узроўні. Шмат украінцаў адкрывае для сябе мову і пераходзіць на яе. Я бачыў нядаўна апытанне сярод вайскоўцаў, дык яно выявіла дынаміку, што яны ўсё лепш ставяцца да ўкраінскай.

**«НН»: Вам важна, што вашы кніжкі выходзяць па-беларуску?**

**СЖ:** Так, важна. Прыемна, калі кнігі выходзяць на любой мове. Але ёсць краіны, якія для мяне асабліва важныя. Беларусь якраз сярод такіх краін. Сюды прыязджаеш як дадому.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**




## Праграма ўрачыстасцяў у Будславе

Сёлета Будслаўскі фэст пройдзе 1 і 2 ліпеня.

**1 ліпеня**

13.00 — 17.00 — сустрэча і прывітанне пілігрымаў кусташам а. Віктарам Бурлакам OFM
17.00 — евангелізацыйная праграма
18.00 — святая Імша
20.00 — Акафіст у выкананні хору Грэка-Каталіцкай Царквы
20.30 — марыйныя Нешпары
21.30 — рахунак сумлення
22.30 — музычная пастаноўка на Год міласэрнасці
23.30 — працэсія з копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай
24.00 — святая Імша

**2 ліпеня**

02.00 — моладзевая праграма ў палатачным гарадку
02.00 — святая Імша паводле грэка-каталіцкага абраду
04.00 — адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту
05.30 — Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі
06.00 — святая Імша перад абразом Маці Божай
08.30 — святая Імша (на польскай мове)
10.00 — даклад з нагоды 25-годдзя Мітраполіі
11.00 — святая Імша з удзелам папскага легата кардынала Крыстафа Шонбарна

# «Мы так сабе ўяўляем праваслаўе, каб усё было па-багатаму, а тут патрыярхі пешкі ходзяць» — Усеправаслаўны сабор у сямі назіраннях Наталлі Васілевіч

У гэтыя дні на Крыце праходзіць Усеправаслаўны сабор — падзея, да якой праваслаўная царква ішла тысячу гадоў. Сабор важны для ўсяго ўсходняга хрысціянства. Але афіцыйных прадстаўнікоў нашай краіны там няма, бо РПЦ, да якой адносіцца Беларускі экзархат, сабор праігнаравала. З беларусаў на Крыце прысутнічае толькі тэолаг Наталля Васілевіч. Яна дасціпна расказала «Нашай Ніве» пра сам сабор і пра тое, што кажуць пра нас у кулуарах.





Наталля Васілевіч.

### Чаму Усеправаслаўны сабор важны для праваслаўных?

«Да яго рыхтаваліся цягам сотень гадоў. Свет сёння змяняецца, перад выклікамі глабалізацыі пытанне ўсеправаслаўных адносін і адзінства Праваслаўнай царквы вельмі актуальнае. Мы павінны перазнайсці сваю ідэнтычнасць. І сабор — гэта спроба незалежна ад сваіх палітычных ці іншых поглядаў выпрацаваць прынцыпы, метадалогію, паводле якой мы маглі б вызначаць, як нам дзейнічаць у свеце далей. Усе прынятыя дакументы будуць мець кампрамісны характар. Але сам факт сустрэчы, факт таго, што праваслаўныя з усяго свету прыехалі і сабраліся ў адным месцы — гэта грандыёзны факт.

У свой час і беларусы спрычыніліся да падрыхтоўкі сабору — гэта гарадзенскі архіепіскап Аляксей Грамадскі ў 30-х гадах, айцец Віталь Баравой і мітрапаліт Філарэт. Вельмі крыўдна, што мы не прадстаўленыя на саборы.

### Чаму на саборы не прадстаўленая Беларусь? Што пра нас думаюць?

«Мітрапаліт Павел і архіепіскап Гурый рыхтаваліся прыехаць сюды, яны былі ўключаныя ў дэлегацыю. Гурый напярэдадні наведваў Афон. Але яны не прыбылі, бо маскоўская РПЦ байкатуе сабор. Але для мяне было дзівам — тут людзі проста падыходзяць і пытаюцца, адкуль ты. І вось я кажу — з Беларусі, а яны ўсе ведаюць пра нас. Тут вялікая заслуга мітрапаліта Філарэта. У свой час, з канца 80-х, у сусветным праваслаўі ён зрабіў вобраз нашай царквы як царквы, згоднай на дыялог з іншымі хрысціянскімі цэрквамі, адкрытай да выклікаў сучаснага свету, царквы, якая на памежжы і пастаянна будуе масты. І гэта тое, што нам трэба працягваць, каб гэты вобраз належаў нам надалей. І калі б Філарэт прымаў рашэнне аб паездцы, то я думаю, мы б не пайшлі на канфрантацыю і паехалі б на сабор».

### Чаму не прыехаў Маскоўскі патрыярх? Што пра РПЦ гавораць у кулуарах?

Тут ніхто гэтага не разумее, усе збянтэжаныя, бо РПЦ брала вельмі актыўны ўдзел у падрыхтоўцы дакументаў, самога сабору. А тут раптам упёрліся і не прыехалі.

Дый аргументацыя няўдзелу РПЦ вельмі расплывістая — выглядае, у іх няма пазіцыі, якую можна сфармуляваць некалькімі сказамі.

Альбо ў іх ёсць нейкія прыхаваныя прычыны, пра якія яны не кажуць услых.

У іх пазіцыя такая: мы самая буйная праваслаўная царква па колькасці вернікаў, таму ваш сабор без нас — гэта нішто. Але атрымліваецца наадварот — яны без гэтага сабору нішто. Бо ў «слаўнасці» праваслаўных цэркваў РПЦ займае 5 месца. Што да памеру паствы, то ёсць іншыя даволі вялікія цэрквы. Румынская, напрыклад. Па колькасці прыходаў яны супастаўныя. А па багаслоўскіх ВНУ, колькасці студэнтаў-багасловаў нават наперадзе. Таму казаць, што мы тут самыя вялікія і вы мусіце з намі лічыцца — гэта несур'ёзны аргумент. Можа, давайце тады ўсе станем рыма-каталікамі, бо яны ж самыя-самыя шматлікія?

РПЦ як бы сама аддзяляе сябе ад паўнаты праваслаўя, «мы хочам ваяваць, мы супраць усіх». Словам, у царкоўным жыцці тое самае, што ў палітычным.

Прысутныя тут расійскія журналісты таксама выклікаюць засцярогі ў людзей — яны паводзяць сябе як агрэсіўныя людзі, якія не задаюць пытанні, а накідваюцца на суразмоўцаў, перакручваюць іхныя словы, выстаўляюць у кепскім святле. Дзіўна гэта ўсё. Агрэсіўная пазіцыя РПЦ вельмі моцна адбіваецца і на журналістах.

Але пры гэтым святарства тут «глядзіць у мора» і спадзяецца, што ўсе, хто не прыехаў, адумаюцца і ўсё ж прыбудуць».

### Чаму не прыбылі грузіны і балгары, але прыехалі чэхі і сербы?

«Сапраўды, не прыехалі балгары і грузіны, не прыехаў Антыяхійскі патрыярхат — арабская цэрквы. У антыяхійцаў канфлікт з Іерусалімскім патрыярхатам праз адзіны прыход у Катары, які адкрыў Іерусалімскі патрыярхат. Гэта парушыла адносіны, бо антыяхійцы лічаць Катар сваёй кананічнай тэрыторыяй. Вось праз гэтае парушэнне кананічных межаў яны ўжо некаторы час не могуць памірыцца. А грузіны вядомыя сваім ізаляцыянізмам — гэта замкнёныя этнаканфесійныя супольнасці, дзе няма прысутнасці іншых хрысціянскіх цэркваў. Ім добра самім з сабой, ім сусветнае праваслаўе мо не вельмі і патрэбна. Але з боку грузінскіх багасловаў быў ліст да сіноду. А Балгарская царква проста паказала, наколькі ў іх несур'ёзныя рашэнні — яны паведамілі, што не прыедуць, бо ў парадак дня не ўключаныя важныя тэмы. Але, даруйце, вы ж самі ўдзельнічалі ў складанні парадку дня і падпісвалі яго. Словам, тут таксама штосьці дзіўнае.

А палякі, чэхі і славакі, сербы — цэрквы, традыцыйна блізкія да РПЦ гістарычна, яны прыехалі. Сербы спрабуюць ставіць пытанні пра статус сабору, але робяць гэта ў яго межах, глядзячы іншым епіскапам у вочы.

У Евангеллі ад Матвея ёсць таксама гісторыя, дзе Хрыстос гаворыць пра 10 дзеваў. Яны былі разумныя і ўзялі з сабой алей у лямпах, а былі 5 неразумных дзеваў. І пакуль яны хадзілі купляць алей, то прыйшоў жаніх, і яны аказаліся па-за шлюбнай бяседай. І тут вельмі падобная сітуацыя — тыя цэрквы, якія абралі палітыку ізаляцыі, яны паводзяць сябе як неразумныя дзевы, якія па-за праваслаўем».

### Ці ёсць на што спадзявацца беларусам ад сабору?

Беларусам увогуле не трэба чакаць ад сабору, ад Канстанцінопальскага патрыярха чагосьці. Трэба перастаць падаваць сябе як нейкі аб'ект праваслаўя, трэба рабіцца суб'ектам, жыць у кантэксце не замкнёнай групоўкі, а ў сусветным праваслаўі. Трэба рабіць самім.

Пытанне аўтакефаліі? Я б зняла яго з беларускага парадку дня. Трэба думаць пра тое, каб прадукаваць запатрабаваныя на сусветным узроўні ідэі, канцэпцыі, вобразы, метафары і сапраўды стаць нейкай заўважнай з'явай у сусветным праваслаўі, і тады пытанні «А што думае пра гэта Масква? А Канстанцінопаль?» знікнуць».

### На што спадзяюцца ўкраінцы?

«Украіна тут добра прадстаўленая. Яны спадзяюцца, што нарэшце праблема іхняга расколу вырашыцца. Гэта не столькі пытанне аддзялення ад РПЦ, колькі пераадоленне таго раздзялення праваслаўнай царквы, якое існуе ва Украіне каля 25 гадоў — гэта суіснаванне дзвюх вялікіх і некалькіх дробных праваслаўных цэркваў, якія не знаходзяцца ў кананічных адносінах паміж сабой. За 25 гадоў нічога не змянілася, а пасля пачатку расійска-украінскай вайны многія прыходы прынялі рашэнне перайсці з кананічнай царквы ў Кіеўскі патрыярхат. Сітуацыя балансу змяняецца на карысць нявызнанай царквы і сведчыць пра тое, што Масква выбрала няправільную стратэгію і не можа справіцца з пераадоленнем расколу. Таму можа спатрэбіцца дапамога Канстанцінопальскага патрыярха. Магчыма, украінцы атрымаюць аўтакефалію».

### Як арганізаваны побыт патрыярхаў? Чым яны адрозніваюцца адзін ад аднаго?

«Месца, дзе адбываецца сабор, — гэта фактычна вёска. Тут таннае харчаванне, побач мора, не люкс, адным словам. І гэта адзін з аргументаў, якія я чула ад расійскіх святароў: маўляў, хіба гэта ўзровень? Патрыярхі на аўтобусах ездзяць, ходзяць пешкі, ніхто не прылятае на верталётах-самалётах. Так усё сціпла, што гэта не па ўзроўні нашых архіерэяў, якія прызвычаіліся да іншага ўзроўню камфорту. Тут ты можаш падысці да іншага патрыярха ці любых епіскапаў, спытаць штосьці, ва ўсіх вельмі блізкія адносіны. А ад рускіх часта даводзілася чуць пра Канстанцінопальскага патрыярха: вось, маўляў, які ж з яго патрыярх? Вы былі ў яго ў Стамбуле? Нейкая сціплая рэзідэнцыя, паглядзець няма на што — хіба гэта сусветная царква? Мы так сабе ўяўляем праваслаўе, каб усё было па-багатаму, а цяпер, паглядзеўшы на гэтых епіскапаў, якія кіруюць шматлікімі прыходамі і епархіямі і ходзяць тут пешкі, жывуць як звычайныя людзі, пачынаеш задумвацца: можа, гэта і ёсць сапраўднае праваслаўе, якім яно павінна быць — без залатых купалоў?»

**Арцём Гарбацэвіч**



## Памерла вярстальніца «Arche» Яўгенія Пліска. Ёй было 33 гады

Памерла вярстальніца часопіса «Arche» і іншых беларускіх выданняў Яўгенія Пліска. Ёй было 33 гады.

«Гэты нумар [часопіса] — апошні, які пачынала вярстаць (але так і не скончыла) наша нязменная супрацоўніца на працягу пяці гадоў Яўгенія Пліска, выдатны прафесіянал і ўвогуле цудоўная ва ўсіх адносінах дзяўчына. Выхад нумара ў свет толькі на пару дзён размінуўся з днём яе смерці ад цяжкой невылечнай хваробы. Хай ёй ТАМ будзе добра. А нам ТУТ будзе вельмі яе не хапаць», — напісаў у сваім фэйсбуку намеснік галоўнага рэдактара, гісторык Алесь Пашкевіч.

Яўгенія захварэла на рак у канцы мінулага года. Хваробу выявіла на позняй стадыі, і яна не паспела нават прайсці хіміятэрапію.

Яна была дачкой аднаго з заснавальнікаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі, палітолага, юрыста Міхаіла Пліскі.

Толькі ў «Arche» праз яе рукі прайшло 35 кніг і выпускаў, а колькі ў іншых выдавецтвах! Яна была адным са сціплых анёлаў беларускай культуры.

«Наша Ніва» выказвае спачуванні родным і калегам Яўгеніі.

**АГ**

# Мовы Шатландыі: ці выйгралі б скотс

Вынікі брытанскага рэферэндуму зноў уздымаюць пытанне незалежнасці Шатландыі. Пра моўную сітуацыю там піша **Дзяніс Тушынскі**.




Гэльскамоўны дарожны ўказальнік у Шатландыі, дубляваны па-англійску.

Ці чакаў бы Шатландыю росквіт яе мінарытарных моў, калі б яна стала незалежнай? Найперш трэба разгледзець заблытаную моўную сітуацыю ў Шатландыі. Сёння ў краіне, акрамя моў эмігрантаў, распаўсюджаныя наступныя: англійская ці яе шатландскі варыянт, скотс, шатландская гэльская мова і брытанская жэставая мова.

Паводле дадзеных перапісу 2011, насельніцтва Шатландыі складае 5 млн 295 тыс. чалавек (5 млн 118 тыс. 223 чалавекі ад трох год, звесткі пра якіх атрыманыя ў апытанні). Па-англійску размаўляюць, чытаюць і пішуць 93,7% насельніцтва. Усяго 8,6 тысяч чалавек зусім ёй не валодаюць.

Англійская мова бытуе ў Шатландыі ў форме спецыфічных шатландскіх варыянтаў, якія маюць фанетычныя і ў меншай ступені лексічныя ці граматычныя асаблівасці.

### Спадчына Нартумбрыі

Мова скотс — германская мова, адносна блізкая да англійскай. Гэта нашчадак паўночнага дыялекту стараанглійскай (англа-саксонскай) мовы. У старажытнасці паўднёва-ўсходняя Шатландыя ўваходзіла ў склад каралеўства германцаў-англаў Нартумбрыя. Затым паўночная Нартумбрыя апынулася ў складзе гэламоўнага каралеўства Альба (Шатландыя па-гэльску), якое ўтварылася пасля аб'яднання перасяленцаў з Ірландыі — скотаў і ранейшага насельніцтва большасці Шатландыі — піктаў. Але англы захоўваюць сваю мову, а пасля нарманскай заваёвы Англіі ў Шатландыю перасяляецца шмат паўночных англічан. У XII стагоддзі шмат земляў ў Шатландыі было перададзена англа-нарманскім феадалам, а таксама фламандцам і брэтонцам. Таму некаторыя вядомыя шатландскія прозвішчы маюць кантынентальнае паходжанне, напрыклад: Брус — англа-нарманскае, Дуглас — фламандскае, а Сцюарт — брэтонскае.

Як і ў Беларусі, у Шатландыі мелі месца гістарычныя метамарфозы назваў моў. Акрамя таго, носьбіты, называючы сваю мову, могуць карыстацца не толькі тэрмінам скотс, але і іншымі яе назвамі, а таксама назвамі дыялектаў. Гэта прыводзіла і прыводзіць да блытаніны. Нашчадкі англа-саксаў да канца XV стагоддзя называлі шатландскую гэльскую мову *Scottis*, шатландскай. Пры гэтым сваю мову яны называлі *Inglis* — англійскай. Носьбіты шатландскай гэльскай мовы называлі тады мову англа-саксаў *Beurla Shassanach* — мова саксаў.

### Inglis — «гарадская» мова

Вырашальным фактарам распаўсюду *Inglis* у Шатландыі стала заснаванне протагарадоў-бургаў, жыхары якіх размаўлялі на гэтай мове. У XIII—XIV стагоддзях яна робіцца асноўнай мовай гараджан і літаратурнай мовай, а арэал гэльскай паступова звужаецца да Хайлэнда, паўночна-заходняй часткі Шатландыі. У канцы XIV стагоддзя паняцці хайлэндар (горац) і гэламоўны чалавек робяцца сінанімічнымі.

У незалежным шатландскім каралеўстве *Inglis* Шатландыі пачаў развівацца сваім шляхам, тады як жыхары паўночнай Англіі ўсё больш арыентаваліся на паўднёваанглійскі стандарт. У 1498 пасол Касціліі і Арагона ў Шатландыі пісаў, што «шатландская мова караля Джэймса IV настолькі ж адрозніваецца ад англійскай, як касцільская мова адрозніваецца ад арагонскай». У адным дакуменце XVI стагоддзя сярод замежных моў, якімі валодае каралева Англіі Елізавета I, называецца і скотс.

### Залаты век і заняпад

З канца XV стагоддзя носьбіты мовы скотс сталі сваю мову ўсё часцей называць *Scottis*, а шатландскую гэльскую — *Erse*, ірландскай. У другой палове XV стагоддзя носьбіты скотс пачынаюць называць мову англічан *Suddron* — паўднёвай, каб падкрэсліць яе адрозненне ад сваёй мовы. XV і XVI стагоддзі — залаты век літаратуры на скотс.

Адной з перадумоў яе заняпаду стала тое, што ў пачатку XVII стагоддзя шатландскі кароль Джэймс VI заняў англійскі трон пад імем Джэймса I, і Шатландыя пазбавілася ўласнага каралеўскага двара. Акрамя таго, шатландскія пратэстанты вырашылі карыстацца англійскай Бібліяй караля Джэймса.

Адукаваныя шатландцы пераходзілі на англійскую мову, якая пачала моцна ўплываць на скотс. Шатландскі паэт і філосаф Джэймс Біці нават выдаў слоўнік скатыцызмаў, каб паказаць суайчыннікам, якіх словаў яны павінны пазбягаць у правільнай англійскай гаворцы.

Тым не менш у XVIII і XIX стагоддзях традыцыя літаратурнай скотс не перарываецца. Напрыклад, у 1786 годзе Роберт Бёрнс выдае кнігу «Вершы ў асноўным на шатландскім дыялекце», якая набывае надзвычайную папулярнасць. Сэр Вальтэр Скот у пачатку XIX стагоддзя выдае шатландскія балады, а ў сваіх раманах выкарыстоўвае дыялогі на скотс. У пачатку XX стагоддзя паэты Шатландскага Адраджэння ствараюць лаланс (*Lallans*), сінтэзаваную з розных дыялектаў і старажытнага моўнага матэрыялу форму скотс. Граматычная і арфаграфічная норма літаратурнай скотс канчаткова не ўсталявалася, хаця ў гэтым кірунку зроблена ўжо шмат.

### Мова ці спосаб размаўляць?

Зараз — некалькі слоў аб статусе скотс. Адзінага погляду няма і дагэтуль. Нават у адной і той жа літаратурнай крыніцы скотс можа называцца то мовай, то варыянтам англійскай мовы. На афіцыйным узроўні кропку ў гэтым пытанні можна лічыць пастаўленай. Брытанскі ўрад, паводле ратыфікаванай ім «Еўрапейскай хартыі рэгіянальных ці мінарытарных моў», «прызнае і паважае скотс у якасці асобнай мовы і не лічыць выкарыстанне скотс прыкметай кепскага валодання англійскай мовай».

Тым не менш нядаўняе даследаванне паказвае, што большасць шатландцаў больш-менш згодныя з тым, што «разглядаюць скотс не як мову, а, хутчэй, проста спосаб размаўляць». Такое стаўленне з'яўляецца адной з перашкодаў яе развіццю.

Калі вы чуеце трасянку, то, хутчэй, лічыце, што чалавек размаўляе па-беларуску з рускім акцэнтам ці па-руску з беларускім? Відаць, гэта залежыць ад ступені беларускасці/рускасці ў кожным выпадку і ад вашых геапалітычных і эстэтычных поглядаў. А можа, трасянка для вас гэта нешта своеасаблівае? Вось тое і са скотс. Паколькі скотс — мова, блізкая да англійскай, то для Шатландыі характэрна вялікая колькасць пераходных варыянтаў, а таксама змяшэнне моў у гаворцы пэўнага чалавека. Можна сказаць, што існуе кантынуум, на адным полюсе якога — максімальна спецыфічная скотс, а на іншым — англійская мова з шатландскім акцэнтам. Гаворка канкрэтнага чалавека можа знаходзіцца ў пэўным пункце кантынуума, а можа перамяшчацца па ім у залежнасці ад сітуацыі.

Важным крокам у легітымізацыі скотс было ўключэнне пытання пра валоданне ёй у апытальныя лісты перапісу 2011 года. Улічваючы стаўленне да скотс хутчэй як да дыялекту ці нават як да сапсаванай англійскай мовы, а таксама блытаніну з назвамі, перад перапісам Цэнтрам мовы скотс была праведзена адмысловая тлумачальная кампанія.

Паводле дадзеных перапісу, у той ці іншай ступені валодаюць скотс 37,3% насельніцтва, пры гэтым размаўляюць, пішуць і чытаюць на ёй — 24%. На скотс размаўляюць таксама ў Паўночнай Ірландыі (8,1% насельніцтва) і ў Рэспубліцы Ірландыя.

Скотс — самая распаўсюджаная мінарытарная мова Вялікабрытаніі, пры гэтым падтрымка ёй аказваецца найменшая. У асноўных газетах матэрыялаў на скотс вельмі мала. Тэлебачання ці радыё на скотс няма, хаця маюцца асобныя праграмы.

Да 40-х гадоў пазіцыя шатландскага дэпартамента адукацыі ў адносінах да скотс была зняважлівая: маўляў, гэта мова непісьменных людзей, якая не падыходзіць для адукацыі і культуры. Сёння як прадмет скотс у школе не вывучаецца, хіба маецца неабавязковы курс для старшакласнікаў. Падручнікаў па школьных прадметах на скотс няма. Настаўнікаў, праўда, афіцыйна заахвочваюць разглядаць скотс у курсе англійскай мовы, напрыклад, праз вывучэнне літаратуры на гэтай мове, правядзенне мерапрыемстваў і г.д. Гэта і робяць энтузіясты. Створана сетка афіцыйных каардынатараў для распаўсюду скотс у адукацыйнай сферы. Натуральна, скотс-моўныя настаўнікі могуць выкарыстоўваць гэту мову ў выкладанні, але многія карыстаюцца на працы англійскай. Шатландскія ВНУ прапануюць курсы скотс.

### Не размаўляюць, але хацелі б

У 2010 годзе ў Шатландыі было праведзена даследаванне выкарыстання скотс і стаўлення да яе. Атрымалася, што 85% апытаных размаўляюць на скотс хаця б зрэдку, а 20% — часта. Прыблізна дзве траціны апытаных лічаць, што скотс актуальны для сучаснай Шатландыі. У асноўным на скотс размаўляюць у сям'і і з сябрамі, істотна менш — на працы.

34% рашуча згадзіліся, а 30% у пэўнай ступені згадзіліся з




Размеркаванне скотс-моўных у Шатландыі, паводле перапісу 2011.

Размеркаванне гэламоўных у Шатландыі, паводле перапісу 2011.

# і гэльская ад незалежнасці?

выказваннем «я не разглядаю скотс як мову, гэта хутчэй проста спосаб размаўляць». Усяго 29% больш-менш згодныя, каб скотс вывучалася ў школах. Але большасць жадала б, каб дзеці заахвочваліся выкарыстоўваць скотс.

На перапісе 93% адказалі, што дома яны размаўляюць толькі па-англійску, на скотс — 1% (столькі ж, дарэчы, па-польску), па-гэльску — 0,5%. Што да скотс, то гэты паказчык надзіва адрозніваецца ад вынікаў даследавання 2010 года. Правільнасць ацэнак магла сказіць няпэўнасць паняцця скотс у свядомасці.

### Клан, плед, лох, віскі і слоган

Шатландская гэльская мова — кельцкая мова гэльскай групы, роднасная ірландскай. Гэта нашчадак мовы скотаў, якія ў V стагоддзі перасяліліся на захад сучаснай Шатландыі з Ірландыі. Да X стагоддзя каралеўства скотаў аб'ядноўваецца з пiктамі, узнікае каралеўства Альба, пікцкая ж мова знікае. Верагодна, да XV стагоддзя на гэльскай размаўляла большасць насельніцтва Шатландыі.

Напэўна, чытач ведае некалькі гэльскіх слоў, у прыватнасці, клан, плед, лох (як у Лох Нэс), віскі і слоган. Слова клан паходзіць ад гэльскага слова са значэннем «дзеці». Слова віскі паходзіць ад словазлучэння *uisce beatha*, што значыць вада жыцця. «Слоган» — ад *sluagh-ghairm* — баявы кліч.

Як ужо адзначалася, арэал гэльскай паступова звужаўся да Хайлэнда і заходніх астравоў. Шатландскі закон аб адукацыі 1872 года прывёў да забароны ўжывання гэльскай мовы ў адукацыйнай сферы. За сто год з 1891-га колькасць носьбітаў мовы скарацілася амаль у чатыры разы.

Апошні перапіс засведчыў, што хаця б у нейкай ступені гэльскай валодае 87.000 чалавек ці 1,7% насельніцтва (10 год таму такіх было 1,9%). Колькасць людзей, што размаўляюць, пішуць і чытаюць на гэльскай, склала 32000 чалавек, ці 0,6%. Гэта лічба за 10 год не змянілася.

Шатландскі закон «Аб гэльскай мове» (2005) заснаваў установу пад назвай Гэльская рада. Яна ўпаўнаважана патрабаваць ад дзяржаўных шатландскіх арганізацый стварэння і выканання планаў па развіцці мовы ў сферах сваёй кампетэнцыі.

Калі ў 1985 усяго 24 школьнікі пачатковых класаў вучыліся па-гэльску, то зараз каля тысячы наведвае гэламоўныя дзіцячыя садкі, а 2,5 тысячы вучыцца ў гэльскіх пачатковых школах, якіх больш за 60. Цікава, што для большасці гэтых дзяцей гэльская не з'яўляецца першай мовай.

Ёсць 46 сярэдніх школ, дзе вывучаецца гэльская, 14 з іх прапануюць нямоўныя прадметы на ёй. У сярэдняй школе на гэльскай мове вучыцца (ці вывучае на павышаным узроўні) больш за тысячу чалавек. Больш за 8000 дзяцей вучаць яе ў англамоўных школах як асобны прадмет. Яна вывучаецца ва ўніверсітэтах і каледжах.

Бі-бі-сі мае гэламоўны радыё- і тэлеканал «Альба», які фінансуецца ўрадам Шатландыі. Гэламоўныя перадачы ёсць і ў праграмах іншых тэлекампаній. Чыста гэламоўных газет няма, але гэламоўныя матэрыялы друкуюцца ў шэрагу выданняў.

У 2011—2012 шатландскі ўрад выдаткаваў на гэльскую мову прыкладна 23 мільёны фунтаў, што склала 0,07% ад яго агульнага бюджэту.

### Няпэўная «Будучыня Шатландыі»

Зараз паспрабуем прааналізаваць, як бы незалежнасць адбілася на моўнай палітыцы Шатландыі. У 2013 урад апублікаваў дакумент пад назвай «Будучыня Шатландыі. Твой праваднік па незалежнай Шатландыі». Гэты змястоўны тэкст падрабязна апісвае перспектывы незалежнасці для розных сфераў жыцця, у тым ліку і для моў. Там ёсць і адказы на пытанні, дасланыя грамадзянамі ва ўрад.

На пытанне «Якія будуць нашы нацыянальныя мовы?» гучыць адказ: маўляў, урад прапануе не мяняць наяўныя статусы англійскай, гэльскай, скотс і брытанскай жэставай мовы. Праўда, далей ідзе заўвага, што канстытуцыйная рада, скліканая пасля атрымання незалежнасці, магла б разгледзець статус моў Шатландыі ў яе канстытуцыі.

Падтрымка гэльскай мовы працягнулася б. Дакумент прызнае вялікую ролю для незалежнай Шатландыі гэльскай мовы і мовы скотс. У «Будучыні Шатландыі» адзначана, што ўрад працягне мацаваць статус і павялічваць колькасць носьбітаў гэльскай мовы праз забеспячэнне адукацыі на ўсіх узроўнях (праўда, пералічаны толькі пачатковая і сярэдняя адукацыі). На гэльскае тэлевяшчанне плануецца выдаткоўваць 12 мільёнаў фунтаў на год.

З іншага боку, пазіцыя ўрада не была адшліфавана і нават давала падставы фантазіраваць, што магчымы і сур'ёзны прарыў. У тэксце маецца дзіўнае абяцанне таго, што гэльская зойме цэнтральнае месца ў грамадскім жыцці Шатландыі. Ніякага тлумачэння, як гэта будзе зроблена з мовай, якой валодае 1,1% насельніцтва, не прыводзіцца.

У адказ на пытанне, ці атрымае скотс пасля незалежнасці больш падтрымкі, урад дае адказ: маўляў, апошні перапіс даў звесткі, на якіх і будзе грунтавацца далейшая распрацоўка моўнай палітыкі і развіццё ўжывання і статусу мовы. Але, як мы бачылі, перапіс паказаў, з аднаго боку, высокі працэнт валодання скотс, а з іншага — татальнае валоданне англійскай мовай. Які ўзровень падтрымкі абраў бы ўрад у такой сітуацыі, невядома.

Можна спадзявацца, што працяг і некаторая інтэнсіфікацыя цяперашняй моўнай палітыкі ў дачыненні да гэльскай нарэшце прывядзе да росту колькасці носьбітаў мовы, бо за апошнія дзесяць год назіралася мінімальнае падзенне колькасці гэламоўных з 1881 года. Але з выкананнем абяцанняў ужо ўзніклі праблемы. Напрыклад, бланкі для рэферэндуму ўрад надрукаваў толькі на англійскай мове. Пратэсты былі праігнараваныя, а шырокая грамадскасць (акрамя гэламоўнай) засталася абыякавай.

Дарэчы, аб абыякавасці. Нядаўняе даследаванне стаўлення да гэльскай мовы паказала, што толькі 56% з тых, хто верыць, што незалежнасць дадала б шатландцам гонару за сваю краіну, жадалі б, каб на гэльскай у будучыні размаўляла больш людзей, чым цяпер. Сярод тых, хто лічыць сябе шатландцам, а не брытанцам, такіх 51%. Праўда, гэтае ж даследаванне засведчыла, што чым больш людзі схіляюцца да шатландскай ідэнтычнасці і чым больш яны захапляюцца ідэяй незалежнасці, тым больш яны жадаюць, каб колькасць носьбітаў гэльскай павялічылася.

Пакуль не праведзена лангіцюдных даследаванняў, якія б паказалі колькасць носьбітаў скотс і стаўленне да гэтай мовы ў дынаміцы. Таму нельга зрабіць абгрунтаваных высноў аб уплыве цяперашняй моўнай палітыкі на стан гэтай мовы. Але падаецца, што захаванне цяперашняга статус-кво недастатковае для росквіту скотс як паўнавартаснай мовы — сапраўды, трэба ўздымаць яе статус у свядомасці носьбітаў, развіваць адукацыю і медыя. Іншае пытанне, ці трэба яно ім і, што важней, ці гатовыя яны зрабіць рэальныя крокі: напрыклад, аддаць дзяцей у скотсмоўныя школы? Як мы бачылі, вынікі апытання на гэту тэму супярэчлівыя.

### «Мова ў нас усіх супольная»

А што, дарэчы, з англійскай мовай? Скрозь усю «Будучыню Шатландыі» падкрэсліваецца, што еднасць шатландцаў з астатнімі брытанцамі застанецца непарушнай, у тым ліку дзякуючы «адной з імі мове, культуры і гісторыі». Затым урад даводзіць, як выгадна будзе і далей прымаць брытанскіх студэнтаў у шатландскіх універсітэтах, а яны прыедуць, бо «мова ў нас усіх супольная». Як адзначаюць аналітыкі, англійская мова робіць Шатландыю вельмі прывабнай на моўным рынку — тая ж сусветная мова ды яшчэ з мясцовым рамантычным каларытам.

Акрамя таго, у выпадку незалежнасці на скотс і на гэльскую больш не распаўсюджвалася б падтрымка, гарантаваная «Еўрапейскай хартыяй рэгіянальных ці мінарытарных моў», бо падпісвала яе не Шатландыя, а Вялікабрытанія. Незалежная ж Шатландыя не атрымала б аўтаматычнага сяброўства ў ЕС. І калі гэльскую абараняе яшчэ і адмысловы шатландскі закон, то скотс пазбавіўся б свайго канкрэтнага статусу.

Незацікаўленасць прыхільнікаў незалежнасці моўным пытаннем можа указваць на тое, што ў выпадку незалежнасці істотнага прарыву ў моўнай сферы не было б. Не выключана змена стаўлення пасля незалежнасці, але наколькі гэта імаверна? Так што, з аднаго боку, шатландскім моваабаронцам не варта сумаваць, а з іншага — ім будзе не да суму.

Не выключана, што калі рух за незалежнасць ці пашырэнне аўтаноміі працягнецца, то яго прыхільнікі нарэшце звернуць большую ўвагу на моўнае пытанне, шукаючы падтрымкі ўсіх гэламоўных і свядомых носьбітаў скотс. Калі ж паўнамоцтвы Эдынбурга ў сферах падаткаабкладання, бюджэту і сацзабеспячэння сапраўды павялічацца, то паглядзім, якія эканамічныя выгоды гэта прынясе краіне і колькі ад тых выгодаў будзе скіравана на развіццё спрадвечных шатландскіх моваў.

**Дзяніс Тушынскі,**
**намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы**

## Гісторык: У ваенна-стратэгічным сэнсе Беларусь цяпер уяўляе такі самы «балкон», якім у 1815—1914 было Царства Польскае

Піша гісторык **Андрэй Вашкевіч.**

Вось звярнуў увагу на такое падабенства. Карта Расійскай Імперыі 1914 года (у нашай частцы яна была нязменнай ад 1815 года, цэлае стагоддзе) і сучасная карта супольнай вайсковай прасторы Расіі і Беларусі.

І сто гадоў таму, і цяпер Расія мела такі клін, убіты ў Еўропу. Тады з Царства Польскага планаваліся наскок на Берлін, адсяканне Усходняй Прусіі ды Галіцыі. Цяпер з нашага беларускага кліна можна планаваць наскок на Варшаву, адсяканне Балтыкі ды Украіны. Сто гадоў таму Расія напоўніцу паспрабавала скарыстацца гэтым клінам і пацярпела паражэнне па ўсіх франтах, страціўшы ў дадатак і ўсё Царства Польскае. Як будзе цяпер, ніхто не ведае, але абодва блокі, відаць, рыхтуюцца грунтоўна.

Ну і як не сказаць пра палітычны момант. Палякі ў 1815 годзе мелі ад Расіі куды болей, чым яны мелі ад яе ў 1915 г. Два паўстанні пакінулі глыбокі след у польскай патрыятычнай свядомасці, але збольшага забралі ў палякаў усё, што яны мелі як аўтаномія пад Аляксандрам І: сваю армію, грошы, сойм... А паўстала Польшча ў XX ст. у выніку: 1) вялікай патрыятычна-выхаваўчай працы ўнутры грамадства, 2) досыць моцнай прамысловасці і гаспадаркі, 3) сусветнай вайны, якая зламала старую карту Еўропы.

Таму, сябры, трэба вельмі моцна думаць, што нам рабіць далей, каб Беларусь у гэтым стагоддзі захавалася на карце Еўропы.




**Андрэй Вашкевіч,**
**facebook.com**



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**На Камсамольскім возеры з'явіліся новыя арт-аб'екты. Выставу можна наведаць бясплатна цягам трох месяцаў. Велізарныя прасторавыя аб'екты сучаснага мастацтва знаходзяцца на востраве за Палацам Незалежнасці. Усяго 16 інсталяцый, сярод якіх трохметровы ровар, гіганцкія коканы на дрэвах і арыгінальныя «шпакоўні для думак».**



**Васямнаццацігадовая школьніца са штата Мантана (ЗША) Кэйтлін Ювік (Kaitlyn Juvik) стала пачынальніцай сусветнага руху «Няма станіка — няма праблем» (No Bra, No Problem). 25 мая дзяўчыну выклікалі да дырэктара школы, дзе зрабілі вымову. Дырэктар лічыць, што гэта хоць і не парушае правіл, але Ювік «стварала праблему» і «выглядала непрыстойна». Гэта настолькі абурыла школьніцу, што яна амаль адразу стварыла суполку ў фэйсбуку. Яе падтрымалі і іншыя аднакласніцы, яны з'явіліся ў школу без станікаў. Цяпер яе падтрымліваюць ва ўсім свеце.**



**Беларускія спартсмены паедуць на Алімпіяду ў Рыа ў форме з нацыянальным арнаментам. Аўтар калекцыі «Беларусь спартыўная. Сіла перамог» — беларуская дызайнерка Юлія Латушкіна. Пры стварэнні адзення, выкананага ў чырвоным, шэрым і белым колерах, былі выкарыстаныя нацыянальныя матывы і арнамент з васільком.**




**Кампанія «Байкальскі пернік» атрымала прадпісанне ад бурацкіх уладаў спыніць вытворчасць кандытарскіх вырабаў са словамі прэм'ер-міністра Расіі Дзмітрыя Мядзведзева крымскім пенсіянерам «Грошай няма, але вы трымайцеся!».**




МІКІТА НЕДАВЕРКАЎ

**«Крыніца» правяла рэбрэндынг, у афармленні паболела беларускай мовы. Генеральны дырэктар прадпрыемства Аляксандр Кіжук адзначыў, што гэта, «на шчасце, ужо не тая прадукцыя, пра якую склаліся стэрэатыпы».**



## Анекдоты і жарты

* * *

Стары шатландзец чакае свайго сына, які пайшоў на першае спатканне з дзяўчынай. Нарэшце, ужо за поўнач, сын з'яўляецца.

— Ты турбаваўся, тата?

— Так. Хачу ведаць, у колькі табе абышлося спатканне?

— У чатыры шылінгі.

— Ну што ж, гэта не так ужо і шмат.

— Так, тата. Але ў яе больш не было.

* * *

Паставіў начальніку ультыматум: або ён павышае мне заробак, або я звальняюся.

Прыйшлі да кампрамісу: ён не павышае заробак, я — не звальняюся.

* * *

Іду сёння па горадзе, бачу: нейкая штука стаіць. На ёй напісана: «Сацыяльны ліфт». Зайшоў. Агледзеўся. Прыгожа. Усё зіхаціць. Кнопка толькі адна — «Падвал».

* * *

У спёку Карлсан не лётае, а ўключае прапелер на рэверс.

* * *

У краме навучальных матэрыялаў для школы прадаецца дыск з надпісам: «Фільм «Скраданне будучыні», 13 гадзін».

* * *

Дзяўчаты дзеляцца на гаспадарлівых і рамантычных. Першыя, убачыўшы пыльную паверхню, праціраюць яе, а другія — малююць на ёй сэрцайка.

* * *

Міністр спорту Расіі Віталь Мутко сказаў, што зараз расійскіх лёгкаатлетаў будуць правяраць тройчы. Я так разумею: перад прыёмам допінгу, падчас прыёму допінгу і пасля прыёму допінгу.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Дзісна. Віленская губерня.** Кругом Дзісны многа безработных людзей, а акалічныя паны, замест даць кусок хлеба ім, наймаюць на палявыя работы арыштантаў. Ім лёгка: кватэры і харч дармавыя, на табаку сабе заробяць грыўню, і мала бяды! А беднаму чалавеку і радачкі няма, хоць з сям'ёй ідзі і садзіся ў астрог, — ды не прымаюць! Абыватэлі нашы, як пан М-цкі, Гал-цкі і нядаўна прыехаўшая артыстка В-ва, гоняцца за тым, каб лішнюю капейку выгадаць на арыштантах.

**«НН». №24. 1911.**

**Віталь Сіліцкі пра Чэмпіянат свету — 2006:** У Нямеччыне я на свае вочы пабачыў, што футбол — гэта больш чым гульня. Ён дапамог вялікаму народу загаіць свае гістарычныя раны і пазбавіцца ад зданяў мінулага. Спорт і футбол мелі важны псіхалагічны ўплыў. Дзякуючы яму, быць немцам зноў стала класна, прыкольна, крута...

**«НН». №24. 2006.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 28.06.2016.
Замова №2334.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 16024